№ 10 (219) 5 сакавіка 2001 г.

НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# ПАРА ЯДНАЦЦА ВАКОЛ ДОМАША

Леанід Сініцын выкрывае пляны рабаўніцкай прыватызацыі беларускай прамысловасьці. Хроніка передвыбарчае гонкі

Старонка 3.

ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

# *Як перазімавалі?*

***Першая зіма тысячагодзьдзя — трохі лагаднейшая на Захадзе, трохі сураўейшая на Ўсходзе. Сонная беларуская зіма. Як перазімавалі? На гэтае пытаньне адказваюць Алесь Асіпцоў з Магілёва і Сяргей Максімовіч з Горадні.***

Усё першае звычайна ахутанае покрывам таямнічасьці, прароцкасьці ды знакавасьці. Першае задае рытм наступнаму й вызначае ягоны ўзровень. Першая зіма першага году XXI ст. выдалася зьменлівая. Былі пабітыя шмат якія тэмпэратурныя рэкорды мінулага стагодзьдзя. У прыхільнікаў тэорыі глябальнага пацяпленьня зьявіўся яшчэ адзін аргумэнт. Гэтай зімой ня мерзлі, аднак шалёныя перапады тэмпэратураў сталіся прычынай масавага грыпу — школы пару тыдняў былі зачыненыя на карантыну.

Беларускім актывістам першая зіма прынесла разуменьне неабходнасьці займацца тым, чым трэба, але ня тым, чым хочацца. Зьмена прыярытэтаў вымагае нутраное ломкі, пераадоленьне якой дазваляе ўбачыць уласныя пэрспэктывы. І тутака без ахвяраў не абысьціся.

Першая зіма прынесла з сабою першыя расчараваньні стагодзьдзя. Прыкра, што расчароўвацца найчасьцей выпадае ў людзёх, блізкіх ня толькі па духу. Гоніш ад сябе думкі, што знаёмства зь імі адбылося толькі дзеля таго, каб праз пэўны час расчаравацца й зьнікнуць адно для аднаго. На падсьвядом'і адчуваеш, што цябе стала менш і што першыя страты далёка не апошнія.

Пачатак першае зімы быў адзначаны ў Магілеве акцыяй грамадзкага непадпарадкаваньня. Абураны натоўп людзей, якім ня выплацілі ў час заробку, загаціў надвячоркам Пушкінскі праспэкт. Стыхійны мітынг не на жарт перапужаў гарадзкія ўлады спакойнага Магілёва. Шмат хто ўбачыў у гэтай акцыі прадвесьне нечага вялікага й пераломнага. І ня дзіва. Колькасьць мітынгоўцаў у шмат разоў перавышала агульную колькасьць удзельнікаў арганізаваных магілёўскай апазыцыяй мітынгаў пратэсту за папярэднія 5–6 гадоў.

Гэтай зімой у Магілёве нарэшце скончылі пятнаццацігадовы рамонт драмтэатру. Навіна, без сумневу, радасная. Цяпераца ў шэрагу зь лядовым палацам, новым мастом цераз Дняпро сваё ганаровае ды пачэснае месца займеў і будынак тэатру. Толькі чамусьці акторы ня дужа каб імкнуліся даваць свае прадстаўленьні ў новым будынку тэатру – не дарабілі.

Намагаешся ў прамігнулым угледзець нешта вартае — не атрымліваецца. Якую падзею зімы ні бярэш, усё разглядаецца праз прызму падзелу грамадзтва. Благое абрыдла, абрыдла тое, што робіцца вакол нас. Альтэрнатывы абрыдласьці відавочна няма... пакуль.

**Алесь Асіпцоў, Магілёў**



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

# Мяжа трываласьці на злом

## *Жыцьцёвая гісторыя Ларысы Сімаковіч*

**Кожнага з загонаў, які ў свой час давялося "ўзараць" Ларысе Сімаковіч, камусьці іншаму хапіла б на ўсё жыцьцё. Паціху ўрабляць свае соткі, абрастаючы манаграфіямі ды званьнямі, школамі ды пасьлядоўнікамі... Але чамусьці ўвесь час нібы нехта змушаў яе да радыкальных зьменаў. Хаця тут цяжка вызначыць: жыцьцё падштурхоўвала, ці проста людзі, ад якіх яна на той час залежала, элемэнтарна перакрывалі ёй кісларод. Камусьці іншаму на ўсё жыцьцё хапіла б і аднаго такога "аблому", каб не захацець больш ніякіх экспэрымэнтаў на сабе. Звычайна пасьля трыццаці людзі здаюцца: адракаюцца няспраўджаных юначых мараў і супакойваюцца на тым нямногім, чаго ўдалося дасягнуць. Але гэта, відаць па ўсім, не яе доля...**

* * *

Мы пазнаёміліся ў Майстроўні, якая пачыналася з народных песень, фальклёрных сьвятаў і цяпер ужо назаўсёды будзе асацыявацца зь імі.

...На першы погляд, афіцыйнае непрыняцьцё фальклёру ў майстроўскай інтэрпрэтацыі было невытлумачальным. Сусальныя карагоды "пятнаццаці рэспублік-сясьцёр" з квазінацыянальнымі вяночкамі, цюбяцейкамі, балалайкамі і кінжалам у зубах — гэта ж была адна з падвалінаў савецкай ідэалёгіі. У 60—70-я гады ў кожнай школе на працягу году абавязкова праходзіў "фэстываль дружбы народаў": бацькі мусілі апрануць дзяцей у касьцюмы адной з "братніх рэспублік", а вучні — завучыць вершы і песьні на "братніх мовах", ня надта пераймаючыся іх сэнсам. (Памятаю: мне гадоў восем, на мне чырвоная "туркмэнская" сукенка да пятак, зашпіленая сьпераду вялізнай брошкай, з-пад цюбяцейкі зьвісаюць дванаццаць тонкіх касічак. Страшэнна задаволеная сабой, я дэклямую на ўсю актавую залю: "Азатлыгын айдымын парлат сэн эзіз Ленін...".)

Адпаведна з палітычнымі ўстаноўкамі, у Беларусі ці ня кожны калгас меў свае "запрашаем-на-вячоркі", і ніводзін урадавы канцэрт не абыходзіўся безь "Лявоніхі". А майстроўскія Купальлі ды Гуканьні вясны тапталіся апантана. Хаця яны на 99% складаліся з палітычна бясшкоднага, неапрацаванага беларускага фальклёру. Ну дзе, здавалася б, тут лёгіка?

Але сабачы нюх камісараў ад этнаграфіі не даваў пудла. Майстроўскія сьпевы, зь іх напругаю ў 2000 вольт, мелі з афіцыёзным фальклёрам столькі ж супольнага, колькі рухавая беларуская перапёлачка — з абскубаным бройлерам. Пасьля таго як нам пачаў адкрывацца глыбейшы й патаемны сэнс народнай песьні, сьвет фальклёру стаў імкліва раскручвацца, як спружына, і выявілася, што ён самадастатковы. Нам, прынамсі, яго хапала, каб у ім жыць. Пракаветныя словы і старажытныя напевы неяк прыдаваліся да ўсяго: і хлопцаў дражніць, і галасна выказваць, што мы думаем пра "гэты час і гэты лад". Ня ведаю, як гэта атрымлівалася, але самыя бяскрыўдныя тэксты — "Медуніца лугавая, чом' ня пахнеш на ўсім лузе?" — пачыналі гучаць як паўстанцкі гімн. Што беспамылкова заўважалася як сябрамі, так і ворагамі.

Аднойчы трапіўшы ў магічнае кола беларускага фальклёру, мы ніяк не маглі ім нацешыцца. Сьпявалі ў тралейбусах, у падземных пераходах, на менскіх вуліцах, разыходзячыся пасьля сустрэч на філфаку БДУ. Сьпяваць Майстроўню навучыла Ларыса Сімаковіч, на той час сама яшчэ студэнтка кансэрваторыі.

* * *

Што такое сцэна, публіка й посьпех, маленькая Ларыса ведала зь пяці гадоў. І яе саму ў родных Баранавічах ужо прыкмецілі. Аднойчы пасьля чарговага канцэрту да яе падышла незнаёмая жанчына і распавяла, што для такіх, як яна, таленавітых дзяцей у Менску ёсьць адмысловая школа. Ларыса прыйшла дадому і сказала бацькам: адвязіце мяне туды. Ніхто ў сям'і, натуральна, не ўспрыняў усур'ёз просьбаў сямігадовага дзіцяці — ці мала што яно там навыдумляе! Але Ларыса так умольвала, што бацька ўрэшце здаўся. "Добра, Ліда, — сказаў ён жонцы, — завязі ты яе ў тую школу, каб потым нас не кляла, што не пусьцілі". На іспыт у Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве (больш вядомую як "Парнат") яны паехалі, як на прагулянку, — нават усіх патрэбных дакумэнтаў з сабой не ўзялі.

Сам іспыт Ларыса памятае вельмі выразна — чорнае піяніна "Беларусь", графін з вадой, стол з чырвоным абрусам, а за сталом — сівы вусаты дзядок.

Працяг на старонцы 6.

навіны за тыдзень

### ПАМЕРЛА МАРЫЯ

**У вёсцы Ніжнія Жары Брагінскага раёну памёрла найстарэйшая жыхарка Беларусі і плянэты Марыя Шарая, якой было 124 гады.** Марыя Шарая пажыла ў трох стагодзьдзях, а ХХ-е пражыла цалкам. Памёрла яна ціха, а хавалі яе ўсёй вёскай. Была на тым пахаваньні і 104-гадовая аднавяскоўка спадарыні Марыі, якая памятае нябожчыцу яшчэ нявестай.

### ЗАХАД І ЎСХОД КРАІНЫ

**На захадзе Беларусі злачыннасьць удвая ніжэйшая, чым на ўсходзе.** Пра гэта паведаміў міністар унутраных справаў У.Навумаў. Самая высокая злачыннасьць — на Віцебшчыне. Мала адстаюць ад яе Магілёўская і Гомельская вобласьці.

### ПАДВЫСІЛІ МІНІМАЛКУ

**З 1 сакавіка мінімальны заробак падвысілі да 5700 руб.** (быў 3600), а тарыфная стаўка першага разраду складзе 11500 руб.

**Алесь Кудрыцкі**

### КАТ БЕЗ ГАЛАВЫ

**Невядомымі беларускімі патрыётамі быў пазбаўлены галавы помнік Ульянаву-Леніну,** што стаяў на тэрыторыі школы ў Жабінцы. "Такім чынам беларускія хлопцы выказалі свае адносіны да ката, што зьнішчыў сотні тысяч сыноў і дачок беларускага народу", — гаворыцца ў лісьце, дасланым у "НН".



# Сыноў не пакрыўдзіў

Сын Аляксандра Лукашэнкі Віктар два гады таму скончыў факультэт міжнародных дачыненьняў БДУ. Пасьля кароткае стажыроўкі ў беларускім пасольстве ў Нямеччыне ён, як і бацька, служыў у памежных войсках. На "дэмбель" сыходзіў капітанам, з узнагарода за выдатную службу ад дзяржаўнай мяжы.

Цяпер Віктар працуе першым сакратаром упраўленьня Эўропы МЗС Беларусі. Нейкім чынам яму ўдалося пераскочыць цераз пасады рэфэрэнта, аташэ, трэцяга і другога сакратароў. Гэта амаль тое самае, калі б выпускнік вайсковай вучэльні адразу ўладкаваўся на палкоўніцкую пасаду.

Міхаіл Чыгір лічыць гэткі кар'ерны рост сына Лукашэнкі праявай пратэкцыянізму з боку бацькі. "Прачытайце кнігу «Шклоўскія страсьці», многа новага дазнаецеся. Там усё напісана: як Лукашэнка паводзіў сябе, калі ў саўгасе працаваў, як сын ягоны паступаў ва ўнівэрсытэт. Гэта ўсё вядома людзям", — заявіў ён. А Анатоль Лябедзька сьцьвярджае, што Віктара Лукашэнку часта бачылі ў Менску ў час, адведзены пад баявую і палітычную падрыхтоўку, і робіць з гэтага выснову, што служба ў таго была нашмат лягчэйшая, чым у звычайнага афіцэра.

Малодшы сын Лукашэнкі таксама вучыцца на дыплямата.

**Паводле Радыё Свабода**


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

з усёй краіны

## Забойца павесіўся ў драбільні

**Раніцай у Дзень сьвятога Валянціна смургонскую міліцыю падняў на ногі званок з Залесься (мястэчка ля Смургоняў) — знойдзены труп жанчыны.** Як высьветлілася, забілі яе напярэдадні сьвята, увечары. На целе ахвяры — два сьляды ад нажа і чатыры ад сякеры. Абвесьцілі пошукі забойцы, у газэце нават фатаздымак далі і прыкметы абвінавачанага з абяцаньнем узнагароды й ананімнасьці, калі зловяць. І яго знайшлі праз 11 дзён пасьля забойства ў закінутай драбільні сьлікатнага заводу. Злачынца павесіўся і пакінуў дзьве пасьмяротныя запіскі. Ён каяўся ў зробленым, у тым, што і сам стаў ахвярай абставін.

Забойца і ахвяра былі знаёмыя, нават блізкія адно аднаму людзі. Некаторы час жылі разам. Але напярэдадні забойства моцна пасварыліся. Кажуць, яна (між іншым, працавала бібліятэкаркай і мела 43 гады) выгнала яго са сваёй хаты. І ён адпомсьціў. Сьледчыя казалі — жудасную карціну яны ўбачылі: пакутніца ў сарай, у гноі, у лужыне крыві. А тыя, хто зь ёй працаваў, казалі, што яна заўсёды выглядала шчасьлівай і вясёлай, хоць жыцьцё не не шкадавала... І ўрэшце не пашкадавала канчаткова.

## Пікетчык

**Віктара Тураўца, сябра КХП БНФ, у Смургонях ведаюць усе.** Не імя, а яго бясконцыя пікеты. За мінулы год ён выходзіў да "Гастраному" (звычайнае месца пікетаваньня) 6 разоў. Чатыры пікеты запрашалі байкатаваць выбары ў Палату, астатнімі Віктар пратэставаў супраць незаконных дзеяньняў цяпер ужо былога намесьніка начальніка міліцыі, які забраў у барацьбіта таблічку аб зборы подпісаў за незалежнасьць краіны. Апошні пікет адбыўся 25 лютага, як заўсёды, у нядзелю. Цэлую гадзіну сябар КХП разам з жонкай прастаяў на марозе з плякатамі антылукашэнкаўскага зьместу. Яны раздавалі ўлёткі, размаўлялі з народам. Адзін нядобразычлівы грамадзянін падышоў: я з КДБ, кажа, страляў бы такіх, як ты, кажа. Пабяцаў пазваніць "сваім хлопцам". Потым пад'ехала міліцыя. Падаслалі нейкіх дзяцей, якія фатаграфавалі Віктара. Ён паказаў хлопчыкам язык.

**Тацяна Скарынкіна, Смургоні**

## Інтэграцыя па-савецкаармейску

**У мінулую нядзелю жыхары вёскі Крашын, што пад Баранавічамі, адчулі, што вадаправодная вада падазрона сьмярдзіць.**

Санэпідэмстанцыя адразу ж забараніла піць ваду з кранаў і пачала хляраваць вадаправодную сетку. На шчасьце, ніхто не атруціўся. Што да прычынаў здарэньня, дык, відаць, рамонтная брыгада, рамантуючы каналізацыю 23 лютага, паблытала трубы і злучыла яе з вадаправодам.

## Загінуў таксоўца

**1 сакавіка на гадзіну спыніўся рух на цэнтральных вуліцах Баранавічаў.** Хавалі кіроўца таксоўкі, што зьнік два тыдні таму, а днямі быў знойдзены за горадам у сваёй машыне "Аўдзі-80". Каля 300 таксоўцаў суправаджалі нябожчыка да могілак. Калёна машынаў з чорнымі стужкамі на антэнах расьцягнулася амаль на 2 км.

**Руслан Равяка, Баранавічы**

## Канфіскавалі 33 тысячы даляраў

**Амаль 33 тысячы даляраў канфіскавалі ў адзін дзень памежнікі ў пункце пропуску "Катлоўка".** Грошы, ня ўнесеныя ў дэклярацыю, спрабавалі правезьці трое літоўцаў. Спачатку ў кіроўцы аўтафургона "Вольва" знайшлі 2700 даляраў і 500 марак. Затым у абшыўцы аўтамабіля "Фальксваген" — яшчэ 3400 даляраў. Але найбольш важкі сюрпрыз чакаў ахоўнікаў мяжы ў "Аўдзі-100", якая належала літоўцу. Крыху больш за 26 тысяч даляраў ЗША спрабаваў ён правезьці цераз мяжу. Плача цяпер чалавек...

**Мар'ян Вянгроўскі, Астравец**

# НЁМАН ТАК І НЕ ЗАМЕРЗ

Першы дзень вясны, па Нёмане імкліва плывуць сьнежна-лёдныя сподкі. Усю зіму Нёман жыў, не хаваючыся. Ледзьве не да Калядаў трымалася каля 6–9 градусаў цяпла. Калі надышоў Новы год — паводле варшаўскага часу — на Горадню пасыпаў сьнег.

Хвалісты чарапічны дах у маім вакне быў асьнежаны таксама і 1 сакавіка. Гэта спрыяе працы. Глядзіш на яго, на галубоў, на крукоў, і пішаш сабе.

Нёман. Бязь Нёмана было б ніякавата. Калі сядзіш у бібліятэцы, якая ў Новым замку, выйсьці пастаяць на высокім беразе, паглядзець на плынь, на стары мост, на былы Фарштадт — заўсёдная патрэба. Нават калі ўжо цёмна, рака адчуваецца ўнізе, цьмяна паблісквае.

Узімку два гады таму я ўпершыню засьпеў, як лёдная покрыва апаноўвае раку, рухаючыся з поўдня. Паміж Старым замкам і Каложай была ягоная мяжа. Тут белы лёд, бліжэй да царквы — цёмная вада.

Пяць гадоў таму мы спакойна каля сваіх Крэйдавых гораў шпацыравалі па Нёмане. Нёман тае зімы быў моцна скаваны. Калі берагу ў празрыстым лёдзе здранцьвела хвалістая сакаўная пяпросту смарагдавая трава.

Такія ўжо мы — штозіму бярэмся разважаць, ці хопіць рэжыму мазуты? І кожная наступная зіма робіцца цяплейшай за папярэднюю. Міжволі рыхтуюцца таяць ледавікі ў далёкіх гарах, полюсныя панцыры. І рэжым эканоміць на цэнтральным ацяпленьні, а тэлегледачоў корміць усякімі сібірскаякуцка-далёкаўсходнімі жахамі з разарванымі батарэямі. А мэта? Пашкадаваць іх, жахнуцца, парадавацца, што ў нас лепей? Не, усё гэта — пад інтэгратарскую дудку. Каб прымусіць нас жыць іхнімі праблемамі, як раней мы мусілі жыць праблемамі амэрыканскіх ды іншых мурынаў. Бо пры сацыялізьме няма праблемаў, як ня можа іх быць пры Шуру. Перазімавалі, вывезьлі ўгнаеньні на палеткі, пасеялі, зжалі і — праз дажынкі — да выбарчых скрынак. Якія гэтыя дажынкі будуць — уяўляю сабе! Кшталту сталінскіх «Кубанскіх казакаў».

Ацяпляльны сэзон у нас распачаўся таксама вельмі ідылічна. Зацяплілі досыць рана, яшчэ не пасьпелі амонаўцы з салдатамі зімовыя шапкі паапранаць. Гарадзкі галава 12 кастрычніка паведаміў, што ўлады гэтак любяць гараджанаў, што з задавальненьнем дадуць ім кватэрнае цяпло. Але не таму, мауляў, каб падштурхнуць усіх на выбары ў «палату», а таму, што вулічная тэмпэратура менавіта тры апошнія дні запар была ніжэйшай ад нормы. Але тэмпэратура якраз трымалася тады больш-менш у норме. А вось пасьля выбараў, у панядзелак, цяпло адключылі на некалькі дзён. Хаця наадварот — пахаладала, а салдатам усіх войскаў выдалі аблавухі.

На пачатку зімы наш Сямён Домаш пачаў разглядацца ў якасьці магчымага прэтэндэнта на прэзыдэнцкую пасаду. Потым у нашым «Слуцка-Варшаўскім» пантонным палку радасна адзначылі «300-годзьдзе нашых інжынэрных войскаў», створаных Пётрам Першым. Адна тутэйшая газэта паведаміла, што тады — у 1701 г. — быццам бы «Горадня знаходзілася на ўскраіне Расейскай імпэрыі...» І што расейскі цар рыхтаваўся ў тым самым годзе абараняць ад Карла XII наш горад. А дзякуючы гэтаму, «нага швэдзкага жаўнера» ступіла на нашую зямлю толькі праз пяць гадоў. Вось такая ў нас «інцэрэсная» гісторыя, дарагія землякі.

Ага, зусім забыўся. Яшчэ перад самымі пантанэрскімі ўрачыстасьцямі ўлады сталі рыхтавацца да юбілею заснаваньня на акупаваных Расеяй землях 200 гадоў таму Гарадзенскай губэрні. Тая ж газэта паведаміла з гэтай нагоды, што «ў губэрнскім горадзе Г.» будзе «закладзена юбілейная алея». Вось такімі часам загадкамі ў нас пішуць. І яшчэ. Камандзіру пантоннага, як ужо гаварылася — «Варшаўскага» — палка маскоўскі міністар абароны даслаў адмысловы мэдаль «За ўмацаваньне баявой садружнасьці». Нейкі мэдаль з падтэкстам атрымаўся.

А потым выйшаў 500-ты нумар «Пагоні». А неўзабаве памёр ваявода, якому вельмі хацелася быць губэрнатарам. І прыехаў Шура, і сказаў нейкай загадкай: дарма, мауляў, гаворыць, што ты мог бы яшчэ жыць, мы ж з табой ведаем, што гэта няпраўда... Неўзабаве і зіма скончылася, а Нёман так і ня стаў. Апошнім разам, калі рака замярзала, на яе роўнядзі каля заходняга берагу я па-шкалярску вытаптаў шыльду газэты СВАБОДА, якую неўзабаве закрылі.

**Сяргей Максімовіч, Горадня**



### ПАМЁР ІВАН ЦІШЧАНКА

**Памёр фальклярыст Іван Цішчанка. Нарадзіўся ён у вёсцы Ўлукі Прапойскага раёну, пражыў 70 гадоў. Быў прафэсарам катэдры гісторыі й музэязнаўства Ўнівэрсытэту культуры. Уклаў "Энцыкляпэдыю міталёгіі", ды не пасьпеў яе пабачыць выдадзенай. Шчыры беларус, кіраваў ува Ўнівэрсытэце суполкай беларусістаў.**

# Маральная манаполія

## Ад рэдакцыі "НН"

У 1994 г. кандыдаты ў прэзыдэнты баяліся, каб іх, крый Божа, не палічылі дэмакратамі і незалежнікамі. Цяпер усё зьмянілася.

Толькі лянівы не падае сябе кандыдатам ад дэмакратычнае і апазыцыйнае паловы выбарцаў і не друкуецца ў "Народнай Волі". Блазан Крыжаноўскі сярод такіх прэтэндэнтаў, далібог, ня самы непрадказальны. Вецер павярнуўся!.. Модна быць лібэралам і цэнтрыстам. І таму нават генэрал Казлоўскі, які шэсьць гадоў таму ў страшным сьне не прысьніў бы, што яго лаюць дэмакратам, цяпер узьлюбіў старонкі незалежнае прэсы.

Усю восень і зіму палітыкі, інтэлектуалы, культурнікі – мозг і сэрца беларускае апазыцыі – аналізавалі, хто з грамадзкіх лідэраў-цэнтрыстаў мае найбольшыя шанцы стаць беларускім Каштуніцам. Праводзілі спэцыяльныя сацыялягічныя апытаньні, прамацвалі глебу ў рэгіёнах, кансультаваліся ў Маскве, Бэрліне і Вашынгтоне. Абмяркоўвалі біяграфіі, здольнасьць да калектыўнае працы, уменьне кантактаваць зь людзьмі, выгляд, нават гучаньне прозьвішчаў. Прычым наперад пагадзіліся, што гэта мусіць быць кампрамісная фігура, а не запісны апазыцыянэр. Калі перафразаваць словы, што прагучалі тыдзень таму на круглым стале дзеячоў культуры ў рэдакцыі "НН", шукалі такога асілка, які мог бы перамагчы Цмока, але пасьля сам не перакінуўся б у Цмока.

На ролю асілка вызваліся Сямён Домаш, былы кіраўнік Гарадзеншчыны, Міхаіл Чыгір, былы прэм'ер, Уладзімер Ганчарык, лідэр афіцыйных прафсаюзаў. Пасьля да іх далучыўся Павал Казлоўскі, былы міністар абароны. "Чарты з табакеркі" ў разьлік ня браліся.

Першае галасаваньне на Каардынацыйнай Радзе Дэмакратычных Сілаў яскрава выявіла сымпатыі незалежнага беларускага грамадзтва. Домаш набраў 9 галасоў, Ганчарык – 3, Чыгір – 1. У такой сытуацыі Ганчарык і Чыгір мелі б, па-нармальнаму, самі заявіць аб падтрымцы Домаша і далучыцца да ягонай выбарчай кампаніі. Гэтага не адбылося. Хоць, калі нехта мерыцца ўдзельнічаць у патрыятычна-дэмакратычным блёку, дык мусіць падпарадкоўвацца пэўнай дысцыпліне і спавядаць пэўныя каштоўнасьці.

У такой сытуацыі мусіў бы дзейнічаць прынцып дэмакратычнага цэнтралізму. Прынцып кансэнсусу немагчымы, пакуль меншасьць кіруецца вузкапартыйнымі інтарэсамі. Неабходнасьць шукаць кансэнсус літаральна паралізуе Каардынацыйную Раду Дэмакратычных Сілаў. КРДС аказалася груваcткім мэханізмам нізкай прадукцыйнасьці, залежным ад пазыцыі палітычных пігмэяў. Мусім гэта прызнаць.

Годзе цацкацца з прэтэндэнтамі, за якімі няма рэальнай грамадзкай падтрымкі, адно эфэмэрныя "сувязі" і аморфныя "структуры". Годзе ўзгадненьняў, годзе нарадаў і перамоваў. Хто хоча – хай далучаецца да супольнай кампаніі, хто ня хоча – хай вядзе сваю. Толькі пры гэтым хай не спэкулюе выгодным іміджам "дэмакратычнага кандыдата", не разьлічвае на падтрымку незалежнага беларускага грамадзтва. Адзіны фронт антылукашэнкаўскіх сілаў падтрымае толькі аднаго кандыдата. Манапольнае права назваць такога кандыдата маюць толькі тыя партыі, якія шэсьць гадоў змагаліся з рэжымам і тысячы сяброў якіх прайшлі праз турмы і прыёмнікі-разьмеркавальнікі. Пра гэтую маральную манаполію нельга забываць ні палітычным пігмэям, ні нэафітам апазыцыі.

Незалежнае беларускае грамадзтва мусіць як найхутчэй адкрыта назваць свайго кандыдата. Толькі маючы адзінага кандыдата, яно зможа спакойна і пасьлядоўна дабівацца ягонай рэгістрацыі і перамогі на выбарах. Двух правадыроў не бывае. У Лукашэнкі мае быць адзін антыпод. Незалежніцкі кандыдат мусіць быць адзін. І сакрэт Полішынэля – што абсалютная большасьць беларускіх актывістаў хацела б бачыць такім кандыдатам Сямёна Домаша.

Раз так, прозьвішча адзінага незалежніцкага кандыдата маглі б назваць праверапыя дэмакратычныя сілы – БНФ і АГП, а таксама інтэлігенцыя і дысыдэнты, якім давярае грамадзтва. Насьпела пара кожнаму шараговаму партыйцу, кожнаму беларускаму актывісту цьвёрда сказаць лідэрам апазыцыі: калі паверылі Домашу, мусім ісьці за ім. У адзінстве і дысцыпліне – сіла. А спрэчкі і сумненьні пакінем на наступны год.



АЛЕНА АДАМЧЫКА

### меркаваньне экспэрта

**Падзеі выбарчае кампаніі аналізуе Віктар Чарноў, палітоляг, выканаўчы дырэктар фонду "Адкрытае грамадзтва".**

"У дзеяньнях улады яўна прагляdaецца сілавы сцэнар правядзеньня будучых прэзыдэнцкіх выбараў. Выкарыстоўваецца тая самая мэтодыка, што й на парлямэнцкіх увосені. Адсеў кандыдатаў на стадыі рэгістрацыі. Выліцьцё на іх патокаў бруду. Завядзеньне крымінальных справаў. Магчыма, рэгістрацыю пройдуць толькі маргінальныя, недэмакратычныя кандыдаты. Гэтую небясьпеку можна пераадолець, калі грамадзтва здолее мабілізавацца на супраціў спробам "адстраляць" кандыдатаў перад рэгістрацыяй. Адна з праблемаў, якую вырашае апазыцыя, гэта колькасьць кандыдатаў, зь якою выходзіць на рэгістрацыю: ці то вылучаць аднаго, ці йсьці на рэгістрацыю гуртам. Пажадана, каб апазыцыя змагла б вызначыцца з адзіным кандыдатам яшчэ да рэгістрацыі, раскруціць яго. Калі пойдуць некалькі кандыдатаў, небясьпека іхнае нерэгістрацыі наўрад ці зьменшыцца, бо акрамя дэмакратаў, рэгістравацца будуць і маргіналы накшталт Леванеўскага, псэўдадэмакраты Гайдукевіч ды Калякін. Лукашэнка пакіне іх, бо яны яму не пагражаюць, а сур'ёзных палітыкаў "вырубіць". Улада вырашыць праблему канкурэнтаў Лукашэнкі ды захавае выгляд дэмакратычных выбараў ("ня ўсіх жа кандыдатаў зьнялі"). Усіх небясьпечных для Лукашэнкі кандыдатаў гатовыя аб'явіць крымінальнікамі. Ствараюць уражаньне абложанае фартэцыі, дзе ворагі - скрозь. Яскравы прыклад – экстра-выпуск перадачы Зімоўскага ў сераду».

# Марудзіць не выпадае

## *Беларусі пагражае рабаўніцкая прыватызацыя*

Леанід Сініцын, былы кіраўнік адміністрацыі Лукашэнкі, зьвярнуўся да дэпутатаў палаты прадстаўнікоў з заклікам узбунтавацца супраць свайго патрона. "Краіна на мяжы нечуванай па сваіх маштабах рабаўніцкай прыватызацыі дзяржаўнай маёмасьці, — піша ён у сваім звароце да дэпутатаў. – Ідзе пачварнае спаборніцтва: хто таньней прадасьць Беларусь. На продаж выстаўленыя найлепшыя беларускія прадпрыемствы, якія эфэктыўна працавалі нават ва ўмовах дзяржаўнага кіраваньня". Леанід Сініцын уважае, што трэба сказаць "рашучае "не" прыватызацыі ў перадвыбарчы год. Размовы пра тое, што, "калі няма прыватызацыі, дык няма й рэформаў", напярэдадні выбараў могуць весьці толькі правакатары. Рабаўніцкую прыватызацыю, якой Лукашэнка ў 1994 г. абяцаў не дапусьціць, ён праводзіць цяпер пад ціскам свайго мафіёзнага атачэньня. Пакуль выбары не прызначаныя, ідзе не рэфармаваньне эканомікі, а круцельская гульня бяз правілаў, расьцьвітае махровы "беспредел". Гэта пара спыніць. Пара ўнесьці ды прыняць пастанову палаты прадстаўнікоў аб прызначэньні прэзыдэнцкіх выбараў і вярнуць усіх у рамкі закону. Вы й толькі вы маеце права абвесьціць іхнюю дату ды спыніць гэтым усе злачынныя гульні вакол нашай Радзімы. Пакуль вы будзеце чакаць адмашкі аднаго з кандыдатаў (маецца на ўвазе Лукашэнка – **Рэд.**), усё будзе спрададзена. І тады – якая, у прынцыпе, розьніца, хто стане бяспраўным прэзыдэнтам абабранага народу? Бо ж наша краіна ня нам належаць-ме!" Сініцын заклікае "дзеяньнямі даказаць сваю легітымнасьць" і "нічога не баяцца".

Гэты лямант у пустэльні, зьвернуты да прызначэнцаў дыктатара, выкліканы найперш рашэньнем аб перадачы бабруйскага камбінату "Белшына" фактычна ва ўласнасьць расейскім інвэстарам, якія будуць дзейнічаць праз маскоўскі банк "Авангард". Дырэктар гэтага банку зьяўляецца адначасова дарадцам Генадзя Селязьнёва, старшыні расейскае Думы і блізкага сябра Аляксандра Лукашэнкі. Нібыта маюць прадаць таксама «Беларуськалі» і мазырскую нафтаперапрацоўку. З дапамогай гэтых грошай Аляксандар Лукашэнка, магчыма, хоча прафінансаваць сваю кампанію.

Наіўны заклік сп.Сініцына зьвернуты ня гэтак да псэўдапарлямэнтароў, як да айчыннага капіталу, якім бы мізэрным ён ня быў. "Калі вы не згуртуецеся вакол свайго кандыдата, дык усё нацыянальнае багацьце апынецца ў руках расейскіх спонсараў Лукашэнкі, а вас зробяць нікчэмнымі прыслужнікамі расейскага крыміналу", — папярэджвае Сініцын, далучаючыся ў пэўным сэнсе да дэпутата Пашкевіча, які апошнім часам таксама рэзка крытыкуе лукашыстаў.

Гэтыя палітыкі бяруць дыстанцыю ад Лукашэнкі, бо адчуваюць нетрываласьць ягонае ўлады. Яны яшчэ не гатовыя зрабіць наступны крок – адкрыта падтрымаць кандыдата ад грамадзкай апазыцыі Лукашэнку, які адзін (а не якія там "палаткі") у выпадку сваёй перамогі і здолее ўратаваць Беларусь ад разрабаваньня. Але гэты наступны крок – непазьбежны.

**Барыс Тумар**

# Мазаічная шпіёнаманія

Беларускае тэлебачаньне разахвоцілася лавіць замежных шпіёнаў. На гэтым тыдні палявалі на амэрыканскіх. Паказвалі амэрыканскіх дыпляматаў, жывых і ўжо ў ад'езьдзе, ды называлі іх агентамі.

У якасьці доказу паказалі запіс гутаркі з адным рудым хлапцом, якога, быццам бы, амэрыканцы і завэрбавалі.

Прозьвішча хлапца – Агальцоў, і ведалі яго многія беларускія актывісты. Заўважалі яго то сярод маладафронтаўцаў, то на сходах БПС, ды так агалец пабываў ці не ўва ўсіх арганізацыях "трэцяга сэктару". Ён шчыра прызнаваўся, што ён – сябар юнацкай структуры беларускіх лібэрал-дэмакратаў, а калі яго пачыналі гэтым папракаць, ён апраўдваўся, што ўступіў у гэтую арганізацыю, каб раскласьці яе зь сярэдзіны. Веры яму ніхто нідзе не даваў, бо паводзіў сябе гэты малады чалавек дзіўнавата. Напрыклад, усім распавядаў, што ягоны дзядзька – палкоўнік ФСБ і што яны хочуць прадаць заходнім выведкам сьпісы агентаў ГРУ. Як, маўляў, гэта толькі зрабіць?.. Ну, дык няма дурных!.. Пасьля сп.Агальцоў стаў казаць, што ён аднёс тыя сьпісы ў амэрыканскую амбасаду і што яму за іх далі 200 даляраў. А пасьля зьнік з шэрагаў беларускіх актывістаў, каб нарэшце зьявіцца на БТ.

Гэтак, БТ першым выцягнула з рукава "супрацоўніка "Народнае Волі", лібэрал-дэмакрата Навоева, другім – "шпіёна-маладафронтаўца" Агальцова. У наступных сэрыях нам маюць паказаць запроданцаў, якія махаюць ліхтарыкамі натаўскім самалётам-разьведчыкам. Адпаведныя здымкі вяліся днямі на даху аднаго з будынкаў у Навінках.

**Б.Т.**



Малдова

# Сындром двух беларусаў

**Дзе два беларусы – там тры партыі. Гэты горкі жарт прыходзіць у галаву пры думцы пра нашых бэсарабскіх братоў па нядолі.**

На датэрміновых парлямэнцкіх выбарах у Малдове камуністы ўзялі 50% галасоў і... 70% месцаў у парлямэнце. Патрыятычныя і дэмакратычныя партыі разам сабралі на гэтых выбарах 40% галасоў і... 30% месцаў у парлямэнце. Нават прайграўшы, яны маглі захаваць частковы кантроль над парлямэнтам. Але ішлі яны на галасаваньне аж 14 партыямі і блёкамі. Зь якіх пераадолелі 6%-ны бар'ер толькі 2 – лібэральны блёк Думітру Брагіша (13% галасоў) і Хрысьціянска-Дэмакратычная Народная Партыя былога малдоўскага Народнага Фронту (8%). Астатнія расьцярушылі сілы. Вобраз перасвараных між сабой "дэмакратаў" і "нацыяналістаў", загрузлых у ганебных змовах з карумпаванымі, але грашавітымі чыноўнікамі, быў непапраўна кепскі. Змарнаваныя галасы і надзеі выбарцаў. І, магчыма, Малдова зноў на дзесяцігодзьдзі адкінутая назад у Эўразію. Ці ня тая ж бяда й беларускіх дэмакратаў? Ці ж і ў нас таксама кожны апальны намэнклятурнік не выстаўляе сябе лідэрам апазыцыі?

Малдова — рэспубліка парлямэнцкая, таму лёс краіны на наступныя гады прадвызначаны, калі толькі не ўмяшаецца армія і нейкі малдоўскі Пінinfoчэт не разгоніць новаабранага "савету" і не правядзе жалезнай рукой рынкавых рэформаў, гэтак патрэбных найбяднейшай краіне Сярэдняй Эўропы. Бо інакш камуністы будуць мець у заканадаўчым сходзе канстытуцыйную большасьць, што дазволіць ім правесьці "рэформы" лукашэнкаўскага тыпу законным шляхам.

Праўда, аб лідэрах кішынэўскіх камуністаў кажуць, што яны – стаўленікі ў большай ступені Парыжу, чым Масквы. Што, аднак, мала мяняе справу.

У Малдовы яшчэ менш выгоднае геапалітычнае становішча, чым у Беларусі. Яна ня мае выхаду да мора і запасаў каштоўнай сыравіны, празь яе не праходзяць значныя камунікацыі. Сельская гаспадарка, аснова яе эканомікі, па меры ўзмацненьня кліматычных катаклізмаў, зьвязаных з пацяпленьнем клімату, робіцца ўсё больш рызыкоўнай. Прамысловыя прадпрыемствы сканцэнтраваныя ў зрусіфікаваным і этнічна ўкраінскім Заднястроўі.

Камуністам карціць хоць цаною васальнай залежнасьці ад Масквы і русіфікацыі атрымоўваць газ і нафту па дэмпінгавых цэнах. "Лукашэнкаўская камбінацыя" набывае папулярнасьці ў былых расейскіх калёніях. Такая капітуляцыя непазьбежна выкліча раскол у грамадзтве, пратэсты інтэлігенцыі, нарастаньне спажывецкіх настрояў у грамадзтве. Але за межамі Малдовы зь яе мізэрнай геапалітычнай і эканамічнай вагою гэтага ніхто не адчуе. Затое адпадзеньне Кішынэва стане яшчэ адным ударам па ўкраінскай незалежнасьці, што й без таго хістаецца. Калі "лукашэнкаўскім шляхам" пойдзе Ўкраіна, гэта можа закружыць галаву Маскве. Але ці далёка прывядзе "лукашэнкаўскі шлях"? Сёлета Расея добра жыве, дзякуючы выгаднай каньюнктуры цэнаў на нафту. А заўтра? Ці не атрымаюць малдоўскія жаніхі ад крамлёўскай маладзіцы падводу гарбузоў? Ужо сам факт, што Масква, якая шчэ пяць гадоў таму змагалася за ўплывы ў Славаччыне, Баўгарыі і Сэрбіі, цяпер змушаная задавольніцца Малдовай і Беларусяй, сьведчыць пра абмежаванасьць імпэрскага патэнцыялу. На Радзіме "Одзідзі-дзіны" і "Фэцэскі" гэтага ня хочуць заўважаць.

Малдова — брыдкае дзіця каляніяльных падзелаў Эўропы, адарванае царскай Расеяй ад маці-Румыніі. Расея здаўна прывязала малдоўскую эканоміку да далёкай мэтраполіі і пазбавіла яе тым самым лёгкі і пэрспэктываў. Усё ж хочацца верыць, што не сама гісторыя выракла Малдову на паўзуновае існаваньне, а проста справа ў фатальнай няздольнасьці нацыянал-дэмакратаў у постсавецкіх краінах дабіцца адзінства шэрагаў і абысьціся без гешэфтаў з упэцканымі ў напаўзаконныя апэрацыі чыноўнікамі.

**Барыс Тумар**



наша бацькаўшчына – Цэнтральная Эўропа

# Сьмерць вёскі

Пасьля аб'яднаньня Нямеччыны ўзрос уціск культурных правоў сэрбалужычанаў – аўтахтоннай нацыянальнай меншасьці. Гэтая маленькая заходнеславянская нацыя жыве ў Лужыцкай акрузе ва ўсходненямецкіх землях Саксонія і Брандэнбург з VI ст. Сэрбалужычанамі лічаць сябе 60000 чалавек, палова зь іх дасёньня гаворыць моваЙ сваіх продкаў. Сэрбалужыцкая мова належыць да тых эўрапейскіх моваў, якім пагражае зьнікненьне. Пасьля аб'яднаньня Нямеччыны мінула дзесяць год, але палітыка нямецкага ўраду што да лужычанаў мала адрозьніваецца ад камуністычнай. Урад напалову зьменшыў свае субсыдыі для Сэрбскай Фундацыі, якая падтрымлівала большасьць адукацыйных і культурных лужыцкіх арганізацыяў. Гэта паставіла пад пытаньне далейшае існаваньне лужыцкіх школаў, дзіцячых садкоў, мэдыяў.

Яшчэ за часоў камуністычнай НДР, дзе хранічна не хапала сыравіны, некалькі лужыцкіх вёсак былі разбураныя, а на іх месцы была распачатая здабыча бурага вугалю адкрытым спосабам. Працэс працягнуўся ў ФРН пасьля ўзьяднаньня. Нямецка-сэрбская вёска Горна (нямецк.)/Рогаў (сэрбск.) была выселеная 27 верасьня 1998 г. дзеля адкрыцьця новае капальні. Цяпер яна паміраe...

**Ю.С.**

**631 г.** – першая згадка пра лужыцкіх сэрбаў у Хроніцы Фрэдагара
**990 г.** – заваёва і хрысьціянізацыя славянскіх тэрыторыяў немцамі
**1574 г.** – Альбін Мюлер надрукаваў на ніжнялужыцкай гаворцы Псалтыр і Катэхезу
**1618–1648 г.** – амаль палова сэрбалужычанаў зьнішчаная падчас Трыццацігадовай вайны
**1842 г.** – Гандрый Зэйлер і Арност Смолер заснавалі штотыднёвую газэту «Tydzenska Nowina», папярэдніцу «Serbske Nowiny»
**1854 г.** – першыя масавыя выезды сэрбалужычанаў у Тэхас і Аўстралію
**1875 г.** – забароненае вывучэньне сэрбалужыцкай мовы ў школах
**1877 г.** – Якуб Барт-Цісінскі стварыў эпас «Nawozenja» ("Жаніх") – вяршыню клясычнай сэрбалужыцкай літаратуры XIX ст.
**1912 г.** – заснаваны зьвяз сэрбскіх арганізацыяў «Domowina»
**1933 г.** – фашысты пачынаюць фізычнае й псыхалягічнае зьнішчэньне сэрбалужычанаў, забараняюць лужыцкую мову
**1948 г.** – парлямэнты Саксоніі і Брандэнбургу прымаюць "Закон пра абарону правоў сэрбалужыцкага насельніцтва"
**1956 г.** – першыя пратэсты сэрбалужычанаў супраць разбудовы вугальных шахтаў з патрабаваньнем захаваньня ўнікальнай прыроды і культуры сваіх паселішчаў



Царква ў Рогаве

# Спасіба за пялямені!

"Наўгародзкі мясны двор" заваліў менскія гастраномы расейскімі пяльменямі ў ружовых пачках, усе надпісы на якіх дубляваліся па-беларуску. Адухоўленае такой павагай, ТБМ неадкладна даслала ў Ноўгарад ліст, у якім "падтрымала добры пачын вытворцаў і выправіла недакладнасьці і памылкі". Апошніх, дарэчы, ніяк ня менш за 14.

Чаму ж гэткая мядзьведзяватая ветлівасьць выклікала такі імпэт? Калі абстрагавацца й не ўспрымаць нас як нас і Расею як Расею – ды што тут гэткага? Звычайная зьява — інфармацыя пра прадукт падаецца на мове краіны, дзе ён прадаецца. Так мае быць. Гэта адпавядае міжнароднай практыцы ды элемэнтарнай этыцы. І дзякаваць імпартэру за такую ласку – тое самае, што вітаць воплескамі прыезд сьмецьцявоза. Тым больш, што памылкі – папросту жахлівыя: "пялямені" "энергетычна каштаўнасць" альбо "хаваць пры тэмпературы". Дый пяльмені беларускія нашмат смачнейшыя!

Так выглядае справа з пункту гледжаньня здаровае лёгікі, якая, аднак, не спрацоўвае, калі гаворка йдзе пра Расею, якой мы пагарджаем і баімося, як затурканы гома сапетыкус – непрадказальнага суседа-уркагана, якому закон не пісаны – можа бутэльку паставіць, а можа і жонку згвалціць.

Гаворка йдзе не пра рэальную РФ, а пра Расею, якая існуе ў нашым уяўленьні, на якую так зручна сьпісваць нашую ўласную баязьлівасьць, нежаданьне даваць сабе рады і адсутнасьць самапавагі. Геніяльны ППРБ здолеў адчуць гэтую струнку народнай душы й сьвядома дазволіў сьпіхнуць на сябе адказнасьць за нашае ўнутранае бязладзьдзе й духоўную нішчымніцу. І панёс гэты цяжар на сьвет цэлы. Дазволіў нам адкласьці на далёкую гістарычную пэрспэктыву памкненьне "людзьмі звацца" (чаму перад прыбалтамі такая праблема ніколі не паўставала?) – і зьвязаную з гэтым адказнасьць.

Мы дагэтуль жывем ва ўяўнай краіне, дзе пануе права сілы, дзе можна забіць – і ўсе будуць маўчаць, дзе ніхто нікому нічога ня вінны. Прычым АМОН, "палатка", нават Лукашэнка – адыгрываюць тут другасную ролю. Нічога б яны не зрабілі, каб мы, у большасьці сваёй, ім не дазволілі, каб сваёй штодзённай нязьпэўненасьцю, канфармізмам, якія прымушае нас пераходзіць на расейскую ў мясным аддзеле гастраному (або, у выпадку скрайняга патрыятызму, "падшукваць літаратурныя выразы"), не пацьвердзілі, што жадаем жыць менавіта пры такім палітычным ладзе. Гэткая нязьпэўненасьць ва ўласнай вартасьці, запабеглівая ўсьмешачка на вуснах, адсутнасьць самапавагі выклікаюць абыякавае стаўленьне да справы, якую робіш, – менавіта таму столькі халтуры ў нашай навуцы, культуры, паліцыцы. Таму й ня маем вынікаў і мусім па-дзіцячаму радавацца пры кожным сутыкненьні з элементарнай чалавечай ветлівасьцю, не здагадваючыся, што яна мусіць быць нормай жыцьця.

**Сяргей Мікулевіч**

## Школка ў Лёндане

Пры лёнданскай Скарынаўскай бібліятэцы пачала працаваць беларуская школка для дзяцей. Першыя заняткі ў ёй адбыліся 24 лютага. Напачатку заняткі будуць праходзіць раз на месяц. Дзяцей у веку ад 5 гадоў будуць навучаць танчыць, маляваць і між гэтым — размаўляць па-беларуску. Надалей таксама будуць праходзіць заняткі па беларускай гісторыі і культуры. На першых занятках прысутнічала каля дзесяці чалавек — усе зь сем'яў, дзе хтосьці з бацькоў беларус. Прычым толькі некалькі зь іх — з самога Лёндану, астатнія — зь іншых месцаў Ангельшчыны. Хто з чытачоў «НН» хоча, хай прыводзіць і свае дзеці.

# Сьвятыня вярнулася ў храм

**21 лютага пры ўдзеле віцебскага біскупа Ўладыслава Бліна адбылася незвычайная падзея ў жыцьці Глыбокага – асьвячэньне цудадзейнага абраза Маці Божай Падхорнай Глыбоцкай, які вярнуўся пасьля рэстаўрацыі ў Глыбоцкі Траецкі касьцёл.**

На асьвячэньні, акрамя вернікаў, прысутнічалі ксяндзы ўсіх парафій Глыбоцкага дэканату: кс.Кшыштаф Вітвіцкі, дэкан Глыбоцкі; ксёндз-пралат Ёзас Булька, пробашч Мосарскага касьцёлу Сьвятой Ганны; найстарэйшы ксёндз Глыбоччыны і Віцебскай дыяцэзіі Люцыян Паўлік з Задарожжа. Біскуп Уладыслаў прачытаў казаньне з тэмамі любові да бліжняга і сям'і. Ён адзначыў, што сам нарадзіўся на Глыбоччыне, паходзіць з Задарожжа. Пасьля апошняй вайны быў выехаў у Польшчу, таму яму лягчэй размаўляць папольску, аднак ён сказаў: "Хто разумнейшы – можа маліцца і пафранцуску, і па-польску, але я на каленях вас прашу, каб вы маліліся на беларускай мове, бо яна для вас родная". Са словаў біскупа, у Віцебску вернікі вельмі прыязна ставяцца да роднае мовы, бо яна для іх зразумелая.

Ініцыятарам рэстаўрацыі абраза быў колішні глыбоцкі, а цяпер лынтупскі ксёндз Пятро Ўрубель. Рэстаўрацыя, паводле розных зьвестак, каштавала пад пяць тысячаў даляраў.

Гэты абраз некалі быў уласнасьцю Глыбоцкага кляштару айцоў-кармэлітаў босых. Знаходзіўся ў касьцёле кармэлітаў пад харамі, адсюль і назоў – Маці Божая Падхорная. Пры касацыі кляштара кармэлітаў царскімі ўладамі за актыўны ўдзел мніхаў у паўстаньні 1863 г. і перадачы яго будынкаў "праваслаўнай благачыніі" частка твораў мастацтва дасталася Глыбоцкаму Траецкаму касьцёлу. Сярод іх – абраз Маці Божай Падхорнай, крэсла з разьбянымі ільвянымі галоўкамі, скульптура Ісуса Хрыста, які сядзеў на калодзе ў цярновым вянцы. Скульптура раней знаходзілася ў законным хоры і дзіўна пацела 10 жніўня 1763 г. Кармэліцкая хроніка паведамляла, што а 17-ай і а 22-ой гадзіне ўвесь твар Ісуса пакрываўся кроплямі поту, і айцец-магістар Апалінары сьціраў яго ў прысутнасьці мніхаў.

Нягледзячы на ўсе ліхалецьці й віхуры, Глыбоччыне ўдалося захаваць значную частку сваёй культурна-гістарычнай спадчыны, а колішнія глыбоцкія ксяндзы — цяпер ксёндз-магістар Уладыслаў Завальнюк і ксёндз-біскуп Кірыла Клімовіч — у нашай сталіцы працуюць на ніве адраджэньня беларушчыны ў касьцёле.

**Уладзімер Скрабатун, Глыбокае**



ІВАН КАСЕВІЧ

**Біскуп Уладыслаў Блін асьвячае абраз Маці Божай Падхорнай Глыбоцкай**

лісты ў рэдакцыю

## На Глыбоччыне — камунізм

У свой час кукурузьнік Мікіта абяцаў: "Цяперашняе пакаленьне будзе жыць пры камунізьме!". Называлася нават дата - 1980 год. 20 гадоў таму сапраўднага камунізму так ніхто й ня ўбачыў ні ў Расеі, ні ў Беларусі. Затое камунізм удалося пабудаваць на Глыбоччыне ў першыя месяцы трэцяга тысячагодзьдзя. Мае інфарматары з розных вёсак (Завараты, Прошкава, Зябкі, Лучайка...) паведамляюць, што цяпер у краму можна хадзіць бяз грошай. Прыходзіш, а там ляжыць "талмуд", у які прадавец запісвае, што Франак ці Ядзя ўзялі пэўную еміну на пэўны кошт.

Выдача прадуктаў на "вэксаль" зьвязана з тым, што сяляне ў калгасах ня могуць атрымаць заробак наяўнымі грашыма ад сьнежня мінулага году. Выйсьце сапраўды можна знайсьці зь любога становішча, але заўсёды зьдзіўляе, што чамусьці вяскоўцы жыхары лічаць сябе разумнейшымі, чымся гарадзкія. На розныя меркаваньні апанэнтаў, што "бацька благі", у кожнай вёсцы пачуеш адно й тое: "Трэба працаваць, а не ерундой займацца. І ягадзіну, і грыб сабраць, кабана выгадаваць... Тады й нешта будзе".

Дык і працуйце!

**Скраб, Глыбокае**

## Сэрцы на кандомы

Няўтульна я сябе адчувала 14 лютага: ідзеш па вуліцы і вочы падняць ня можаш, бо няёмка. А часам нават гідка глядзець навокал, бачыць пацалункі на кожным кроку. Я не баюся, што мяне абвінавацяць у зайздрасьці ці пашлюць да Фройда. Я баюся вульгарнасьці ў каханьні.

Сэкулярызацыя хрысьціянскіх сьвятаў зьмяняе ўсю іхнюю існасьць: на Раство замест немаўляці Хрыста зьяўляецца камічны Санта Клаўс – Сьвяты Мікалай. Сьвяты ж Валянцін раптам паўстае ў якасьці апекуна распусты. Сьвятасьць робіцца роўнай граху, і гэта не ўзвышае, не ачышчае яго, а абражае саму сьвятасьць.

Акцыя моладзевых арганізацыяў праходзіла пад лёзунгам."Свабоды! Любові! Пераменаў!" Спалучэньне першых двух словаў адразу насьцярожвала: я не прыхільніца "свабоднай любові". А якіх пераменаў прагла ў той дзень моладзь? Няўжо перамены сэрцаў, хай і папяровых, на кандомы, хай і высакаякасныя? Цяжка мне было ўявіць, што любоў, каханьне, набываючы матэрыяльную форму, маюць выгляд гумовай прылады, што забясьпечвае "сэкс без наступстваў". Вось гэтага я баюся: вульгарнасьці ў каханьні.

На рознакаляровых сэрцах, якія, каб атрымаць касэту "MORE каханьня" і ўжо згаданы сродак кантрацэпцыі, трэ было сабраць па ліку апосталаў (ці каленаў Ізраілевых, каму як больш падабаецца), былі цытаты з Найсьвятой Кнігі пра найвышэйшую цноту – любоў. Жывое Божае Слова мянялі на гумовую рэч, пакліканую перашкодзіць зараджэньню новага жыцьця!

Госпадзе, даруй нам! Веру, што даруеш, бо Любоў Твая, абражаная намі, – "Любоў цярплівая..." (1 Кар. 13:4), "...не памятае зла" (1 Кар. 13:5), "...усё пераносіць, усё церпіць" (1 Кар, 13:7).

Ды ці ж даруем мы сабе самі?..

**Наталька Базылевіч, Менск**

## Ачысьцім Беларусь

Вясна. Прыгрэе сонейка і паўстануць перад вачыма люду паспалітага прыхаваныя сьнегам прадукты яго жыцьцядзейнасьці. Распачнуцца так званыя суботнікі, на якіх тысячы ні ў чым не вінаватых людзей будуць у найлепшых камуністычных традыцыях прыбіраць ня імі пакінутае лайно...

Ёсьць у Менску, ува Ўруччы, адзін незвычайны музэй – музэй валуноў. Сабраны там каменныя волаты з усёй краіны ды выкладзены па абрысе Беларусі (дакладней, БССР). Асобна пазначаны асноўныя рэкі, азёры, узвышшы, а таксама сталіца.

І надта ж упадабаў гэтае месца для свайго "культурнага" ападчынку наш электарат. Наслаеньні бітага шкла, абгортак, бляшанак, коркаў, недапалкаў ды іншай халеры ўкрываюць малую Беларусь ад Браслаўшчыны да Прыпяці, ад Нёмана да Дняпра.

Дык давайце ж зладзім суботнік пад заклікам "Ачысьцім Беларусь!" Збярэмся цёплым веснавым днём 24 сакавіка, са сваім рыштункам, ды прыбярэм гэтыя горы сьмецьця.

Прыканцы, калі зьбярэцца дастаткова людзей, можна стаць, узяўшыся за рукі, уздоўж межаў краіны, пазначаных камянямі, сымбалізуючы рашучасьць абараніць яе ад засьмечваньня ня толькі пабітымі пляшкамі, але й Посахавымі-Замяталінымі-Латыпавымі. Над месцам, якое пазначае Менск, уздымем бел-чырвона-белы сьцяг. Барды прасьпяваюць свае песьні, паэты прачытаюць вершы.

**Вячка Васілёнак, Менск**

## Дзе пружанскія каміны?!

Прыйшоў я неяк у краязнаўчы музэй "Пружанскі палацык", паглядзець выставы там розныя, экспазыцыі, ды папрасіўся яшчэ пахадзіць па неадчыненых пакуль залях. Хаджу сабе, дый усё мне здаецца: чагосьці тут не стае. Думаў-думаў, дый згадаў. У 1986 г., калі тут была зубная паліклініка, дзе й мне давялося "згубіць" свой зуб, былі тут два чыгунныя каміны, а ў іншай залі - яшчэ адзін, цікавы такі, абкладзены кахляй. А сёньня - толькі адзін застаўся, дый той, здаецца, не адсюль, нейкі аж занадта ўбогі. Пытаюся ў супрацоўнікаў музэю, чаму адзін камін, а яны кажуць, што пасьля рэстаўрацыі адзін і быў, іншых ня бачылі. Цікаўлюся, хто "рэстаўраваў" – аказваецца, Пружанскі аддзел абласнога аб'яднаньня "Белрэстаўрацыя".

І якая ж тут рэстаўрацыя? Ад "палацыку" засталіся толькі сьцены, дах, дзьверы ды трохі керамічнай пліткі - куды падзелася ўнутранае ўбраньне, каміны, печы-"галяндкі" і многае іншае, пра што пішацца ў кнізе Пярвішына "Пружанскі палацык"?

З фасаду на гаўбцы адвальваецца тынкоўка ("рэстаўратары", праўда, сяк-так яе падмазалі), усюды лупіцца фарба, адвальваюцца кавалкі цэглы ад комінаў і г.д.

Дык вось хацелася б спытацца ў добрых начальнікаў, як прымалі ў рэстаўратараў гэткі будынак? Мне ад дасьведчаных асобаў дакладна вядома, што ў склад прыёмнай камісіі ўваходзіў інспэктар па ахове гісторыка-культурнай спадчыны ўпраўленьня культуры Брэсцкага аблвыканкаму "бээнэфавец" Леанід Несьцярчук. Як ён мог паставіць свой "аўтограф" на прыёмных актах (калі такія наагул былі)?

Ад рабацягі, які працаваў на гэтай "рэстаўрацыі", я даведаўся, што зьніклыя каміны знаходзяцца ў Берасьці, у кагосьці з шэфаў рэстаўрацыі.

Вы не падумайце толькі, што я хачу, каб кагосьці засадзілі. Я не зьбіраюся, як той казаў, біцца галавой аб сьцяну "зладзейскага бюракратызму" – мне ў мае гады толькі й трэба, каб людзі ведалі пра гэтую справу, каб кожную раніцу спакойна глядзець са свайго вакна на нашую пружанскую прыгажосьць - "палацык".

І яшчэ. Мяне зьдзіўляе спакой музэйных супрацоўнікаў, якія дагэтуль не пачалі ніякага расьсьледаваньня наконт зьніклых камінаў.

Але ж я лічу, што гэта справа ня толькі ўсіх пружанцаў, але й усіх, каму неабыякавы лёс нашай нацыянальнай спадчыны.

**Віктар Сергіенка, Пружана**

## Помнік вялейскім вязьням

Знайшоў у газэце артыкул пра Вялейскую турму. Гэта пытаньне мяне даўно цікавіць, бо мой бацька Пачкоўскі Альбін загінуў там у 1940 г. ад катаваньняў. Рэабілітаваны ў 1976 г., пасьля майго звароту ў КГБ.

Мяне не пакідае ідэя стварыць помнік ахвярам сталінізму ля турмы, я выбраў месца і як бываю ў Вялейцы, то прыходжу са сьвечкай, каб памаліцца за ўсіх закатаваных.

Мастакам даў бы заданьне, каб зрабілі папярэдні праект помніка, а пасьля з гэтым праектам аб'ехаў бы ўсе сьвятыні былой Вялейскай вобласьці, каб сабраць ахвяраваньні на помнік. Але мяне стрымлівае вялікая інфляцыя – прападуць грошы, дый неспрыяльныя ўмовы палітычныя.

Я ўжо даслаў ліст Яніне Станкевіч-Янушчык, якая напісала кнігу "Марш сьмерці" пра трагедыю ля Чэрвеня ў 1941 г. Аналягічная трагедыя была па дарозе зь Вялейкі на Барысаў. Лічу, трэба мець кантакт са "Związkiem Sybiraków", рэдакцыяй у Беластоку і зь літоўцамі, бо загінулі людзі з Польшчы і Літвы.

Прапаную пакуль устанавіць тры вялікія камяні, кожны колеру нацыянальных сьцягоў Польшчы, Беларусі (у цэнтры) і Літвы, выбіць нацыянальныя гербы гэтых народаў і на кожным камяні зрабіць надпіс на нацыянальнай мове кожнага народу: "Тут загінулі беларусы, палякі, літоўцы ад рук бальшавіцкіх. Вечная ім памяць".

У Мядзельскім раёне ёсьць майстэрня, дзе рэжуць валуны і вырабляюць помнікі. Калі помнік зрабіць з тутэйшых камянёў – гэта будзе і сымбалічна, і прыгожа.

**Войцэх Пачкоўскі, Мядзел**

## Рыгору Барадуліну

Мы, вучні 11-й клясы сярэдняй школы №5 Рэчыцы, вымушаныя зьвярнуцца да вашай газэты з просьбай. Рэч у тым, што 24 лютага Рыгору Барадуліну споўнілася 66 год. З гэтай нагоды, як паведаміла школьная адміністрацыя, ніякай імпрэзы ня будзе. Прычына: "Бо гэта ж не юбілей". (Дарэчы, у мінулым годзе таксама нічога не было. Дык паўстае пытаньне: ці ведае адміністрацыя азначэньне слова "юбілей"?)

Але мы ўсё роўна вырашылі павіншаваць любімага паэта зь яго сьвятам, хай ня ў нас у школе, дык праз "Нашу Ніву".

"Шаноўны Рыгору Іванавічу! Хай 66-ты дзень Вашага нараджэньня будзе найлепшым (калі такое магчыма) з усіх, што Вы раней сьвяткавалі. Жадаем Вам, каб Вашыя кнігі разыходзіліся вялізнымі накладамі; любові моладзі (і ня толькі) і натхненьня. Хай усё, што Вы бачыце навокал, выклікае радасьць, а ня смутак. (Апошняе пажаданьне - гэта й наша мара). Мы вельмі любім і цэнім Вас, а Вашыя вершы выхоўвалі й выхоўваюць розум і сэрцы шматкаго з нас..."

**11 "А" кляса СШ №5 Рэчыцы**

жарт



ЗЬМІЦЕР ПАЛУНОСІК

# Мяжа трываласьці


Ларыса Сімаковіч

ЮРЫ ПЛЮЩАЎ

## *Нават цяжка зьлічыць, колькі разоў яна мусіла пачынаць усё спачатку*

Працяг са старонкі 1.

Значна пазьней Ларыса даведаецца, што экзамэн у яе прымаў сам Рыгор Шырма. А тады яна паводзілася зусім вольна — сьпявала "Туптуп, чаравік" і ўсяляк імкнулася зрабіць зь немудрагелістае песенькі музычны спэктакль. Пасьля іспыту камісія загадала Ларысінай маці тэрмінова падвезьці рэшту дакумэнтаў — дзяўчынка бліскуча прайшла ў першую клясу. Ішоў 1964 год.

"Слухай, Ларыса, — пытаюся я ў яе, — ты хоць разумела, што гэта школа-інтэрнат, што ты застанешся бяз мамы, адна, у чужым горадзе?" — Так, адказвае, разумела выдатна. — І не баялася? — Ані. Усе плакалі, як мяне ў Менск праводзілі, і маці, і цёткі, а мне зусім не было страшна. Я вельмі хацела там вучыцца.

Фантастычнасьць той сытуацыі я адчуваю вельмі добра — у мяне самой дачка якраз сямігадовага веку. Не ўяўляю, за якія скарбы сьвету яна б магла пагадзіцца на такое, блізу сірочае, дзяцінства ў інтэрнаце — маючы жывых бацькоў. Але Ларысіна прага вучыцца, як ні неверагодна гэта гучыць, нават у сем гадоў была мацнейшаю за прывязанасьць да роднага дому. "Я вельмі часта — і тады, і потым — лавіла сябе на адчуваньні, што стаю перад зачыненымі дзьвярыма. Нешта там ёсьць, і яно бязьмерна мяне прыцягвае. Гэты магнэтызм я нічым не магу вытлумачыць..."

...Найгалаўнейшым урокам інтэрнацкага жыцьця быў сам досьвед выжываньня ў дзіцячым калектыве — зь ягонымі жорсткімі ўнутранымі правіламі і бязьлітаснымі "жартамі": калі, напрыклад, раніцай хтосьці зь дзяўчатак не знаходзіў каля ложка аднае панчохі і мусіў бегчы на сьнеданак з босай нагою. Самыя таленавітыя пэдагогі, відаць, ня здольныя па-сапраўднаму ўплываць на гэты замкнёны для дарослых сьвет, дзе заўсёды ёсьць лідэры і ізгоі, дзе так лёгка аб'ядноўваюцца ўсе супраць аднаго і дзе часам даводзіцца трываць непрыязнасьць, кпіны і прыніжэньні. Вытрымлівалі далёка ня ўсе. З сарака чалавек, прынятых разам з Ларысай Сімаковіч у першую клясу, школу скончылі ці то 9, ці то 11. Дзеля справядлівасьці скажам, што ня ўсе сышлі самі, некаторых адлічылі за недастатковыя посьпехі ў музыцы.

Апошняе Ларысы ня тычылася ніколі. Яе любімая школьная настаўніца, Галіна Цітова, якая была яшчэ і загадчыцай музычнага аддзяленьня, утварыла з вучняў малодшых клясаў хор і адразу зрабіла Ларысу салісткай (гэты статус дадаткова ўскладніў стасункі дзяўчынкі з аднаклясьнікамі). Менавіта Галіна Рыгораўна, як адчувае Ларыса, і вывела яе ў сапраўдную музыку. Імкнучыся ва ўсім наследаваць настаўніцы, Ларыса выбрала спэцыяльнасьць харавіка-дырыжора (зрэшты, школу яна скончыла яшчэ і як піяністка).

Суровая інтэрнацкая рэчаіснасьць мела ўсё ж і станоўчыя якасьці — яна выдатна гартавала характар. У старэйшых клясах Ларыса зрабілася прызнаным лідэрам. ("Я была такая "жалезная лэдзі" — моцная, часам нават да жорсткасьці".) Але ўладны характар патрэбны дырыжору ня менш за музычны слых. І Галіна Рыгораўна, адчуваючы, што на яе вачах гадуецца самабытны музычны талент, часам даручала Ларысе кіраваць школьным хорам, а потым падахвоціла яе стварыць і першы самастойны калектыў: некалькі дзяўчынак пад кіраўніцтвам Ларысы Сімаковіч сьпявалі апрацоўкі беларускіх народных песьняў, прычым нярэдка Ларыса сама — ня ведаючы, што гэтая праца завецца складаным словам "аранжаваньне" — перарабляла вакальныя творы для зьмяшанага хору так, каб іх маглі выконваць дзеці.

...Увесну, калі сыходзіў сьнег, а ў лесе зьяўляліся першыя кветкі, Ларысе падабалася гуляць у прыдуманую ёй самою гульню — ці то ў таямнічага Робін Гуда, ці то ў добрага дамавічка. Сьветлымі ўжо нядзельнымі вечарамі, калі жыцьцё ў інтэрнаце крыху суцішвалася, яна прабіралася на вахту, "выкрадала" з дошкі ключ ад кабінэту Галіны Рыгораўны — і ўквечвала ўвесь яе пакой прынесенымі зь лесу пралескамі ды яловымі галінкамі. У гэты момант дзяўчынка чамусьці зусім ня думала, што яе могуць заўважыць, пацікавіцца, чым гэта яна займаецца ў пакоі загадчыцы, насварыцца, урэшце, — вачам Ларысы ўяўлялася толькі адна карціна: твар любімай настаўніцы, калі тая назаўтра адчыніць дзьверы і ўбачыць такую прыгажосьць...

Ці здагадвалася Галіна Цітова, сёньня ўжо заслужаная настаўніца Беларусі, хто гаспадарыў у яе кабінэце нядзелямі, — невядома. Калі не — то няхай гэтая таямніца раскрыецца для яе цяпер.

* * *

Потым была Беларуская дзяржаўная кансэрваторыя, аддзяленьне харавога дырыгаваньня. Менавіта там пасьля трэцяга курсу Ларыса сутыкнулася са зьявай, якой наканавана было ў значнай ступені вызначыць яе далейшае жыцьцё: яна ўпершыню пабачыла, як сьпяваюць аўтэнтычны беларускі фальклёр. Гэта сапраўды быў выпадак, ці "воля лёсу" — бо студэнты-харавікі ня езьдзілі ў фальклёрныя экспэдыцыі і мелі поўнае права атрымаць дыплём, ні разу не пачуўшы негарманізаваных вясьнянак ці калядак. Фальклёрную практыку мусілі адбыць "кампазытары", і Ларыса, сама ня ведаючы, чаму, напрасілася ехаць зь імі. Яны трапілі на Віцебшчыну — у край старажытнай і ўрачыстай гетэрафоніі. Ларысу ўразіла ўсё: напевы, рытмы, а найбольш — самі сьпявачкі. Напачатку пагаджаючыся толькі "паказаць" песьню, вясковыя кабеты ўжо на трэцяй ноце забываліся аб сваім намеры й пачыналі сьпяваць усур'ёз. То бок, выкладаючыся дастатку, дарэшты, не пакідаючы нічога недагавораным. Яны сьпявалі — а па іхных тварах, як па кнізе, можна было чытаць гісторыю іхнае маладосьці, каханьня, замужжа...

Успаміны аб тых віцебскіх сьпявачках праз увесь год заставаліся такімі яркімі, што налета Ларыса ізноў папрасілася ў фальклёрную экспэдыцыю. Потым яшчэ й яшчэ — паездкі працягваліся й тады, калі яна выйшла замуж, і перапыніліся толькі з нараджэньнем Ясіка. Але шмат гадоў потым ёй з тугою прыгадваліся азёры, кусты вяргіняў у гародчыках і адчайна-безаглядныя жаночыя галасы:

"А Манечкін татулька
Ды прасіўся ў Бога
На дзіцяцю паглядзеці..."

Досьвед фальклёрных практык меў пэўныя практычныя наступствы. Ларыса раптам зразумела, што ўсе чутыя і сьпяваныя ёю раней апрацоўкі беларускіх народных песьняў (нават зробленыя "клясыкамі жанру" — Галкоўскім, Шырмам, Копасавым) — гэта, мякка кажучы, вельмі далёкія ад фальклёру творы. Дакладней, яны й не прэтэндавалі на тое, каб называцца фальклёрнымі, гэта была акадэмічная музыка, усяго толькі ўгрунтаваная на народных мэлёдыях. Паўставала пытаньне: а ці нельга паспрабаваць сумясьціць несумяшчальнае? Як-небудзь інакш зблізіць гэтыя два палюсы: аўтэнтычны фальклёр — і прафэсійнае мастацтва? Спалучыць пранізьлівую шчырасьць, наіўную даверлівасьць, цёмнае загадкавае прадоньне не заўсёды ўжо зразумелых фразаў — і музычную мову ХХ стагодзьдзя, адточаную вакальную тэхніку, эўрапейскае выкананьне? Здаецца, менавіта з такога імкненьня і нарадзіўся другі кіраваны Ларысай калектыў — студэнцкі квартэт "Каралёначкі". Ён выконваў Ларысіны ўласныя апрацоўкі беларускіх народных песьняў. Ужо тады гэтыя апрацоўкі радыкальна разышліся як з магістральным для белсавецкай музыкі аптымізмам полечкі-скакухі, так і з балотнай "беларускаю журбою". Мэлёдыі, пачынаючыся нібыта ад звыклага парогу сялянскае хаты, неўпрыкмет заводзілі на такую вышыню, дзе маглі кружляць толькі буслы і чыстыя думкі — салодка-горкія, як арабінавы сок. А словы абіраных ёю песень — што гэта былі за тэксты?!! "У караля сярод двара стаіць явар зялёненькі, пад яварам Дунай ціхі...", "У Ерусалім каля места, ой, там ішла Божа Маці, несла сьвечачку грамнічную..." (Нагадаю, на дварэ стаялі марозныя 80-я.) Падобным чынам, мусіць, вылекаваныя ад амнэзіі згадваюць даўно забытае маленства...

Ларыса супала з Майстроўняй адразу, як быццам сынхронна павярнуліся два ключы ў сакрэтных замках, і адчынілася патаемная схованка. А ў схованках, як вядома, хаваюць дзьве галоўныя рэчы — скарб і зброю.

* * *

У 1980 г., калі Ларыса Сімаковіч вучылася на 4-м курсе, яе ўзялі працаваць хармайстрам у хор Беларускага радыё й тэлебачаньня. Праз пэўны час Ларыса адчула, што перарасла "штатныя" функцыі (якія палягалі, галоўным чынам, у развучваньні партый), і ёй захацелася, як яна сама кажа, "быць мастаком". Але як толькі Ларыса паспрабавала працаваць з калектывам творча, рэалізоўваць свае ідэі ўжо як дырыжор, ёй адразу далі зразумець, што кожны каток мусіць ведаць свой куток. Вядомы кіраўнік хору, народны артыст Беларусі, вырашыў, што аднаго таленавітага дырыжора на калектыў цалкам дастаткова. І ён прымусіў Ларысу сысьці.

Атрымаўшы дыплём дырыжора-харавіка, Ларыса апынулася перад невырашальнай праблемай: куды пайсьці працаваць? На той час у Беларусі існавалі толькі тры прафэсійныя харавыя калектывы, і ніхто з кіраўнікоў, вядома, не зьбіраўся саступаць ёй месца. Узначаліць самадзейны хор? Гэта значыла — ад пачатку выракацца сябе на творчую нерэалізаванасьць, бо аматарскія сьпевы ніколі не дасягнулі б прафэсійнага ўзроўню, да якога яна пасьпела прызвычаіцца ў хоры БРТ. Гаворка ішла не аб "прэстыжнасьці" — Ларыса прагнула дасканалага гуку, яна чула яго ўнутры сябе і ўжо намацвала шлях, ужо нават трохі ведала, якім чынам выводзіць хор да такога гучаньня. У самадзейным калектыве і пра гэтыя мары, і пра адпаведны рэпэртуар давялося б забыцца назаўсёды: яна мусіла б працаваць зь людзьмі, якія нават не заўсёды ведаюць ноты, і на пальцах тлумачыць таму, хто фальшывіць, каб сьпяваў на два таны вышэй.

З гэтай, здавалася б, безвыходнай сытуацыі Ларыса знайшла абсалютна нечаканае выйсьце. Яна вырашыла паступіць у кансэрваторыю другі раз — каб стаць яшчэ й кампазытарам. Менавіта яе згаданыя вышэй студэнцкія работы — апрацоўкі народных песьняў — прыцягнулі ўвагу Андрэя Мдзівані, і той пераканаў Ларысу, што ёй варта заняцца кампазыцыяй усур'ёз.

...Можа, хто-небудзь думае, што вучоба на іншым аддзяленьні ў той самай навучальнай установе вызваляе, прынамсі, ад паўторнай здачы адных і тых прадметаў (кшталту марксізму-ленінізму альбо этыкі, напрыклад)? Дык ён памыляецца...

Паралельна з вучобай Ларыса працавала — хаця Ясік быў яшчэ зусім маленькі, яна не ўяўляла сабе жыцьця ў "дэкрэтным зьняволеньні". Працавала ў розных месцах — з хорам таварыства інвалідаў па зроку, у клюбе заводу імя Леніна. Калі Майстроўня распалася на некалькі "вузкаспэцыяльных" суполак (літаратурную, гісторыка-краязнаўчую і г.д.), з часткі тых, хто найбольш упадабаў сьпевы, утварыўся фальклёрны гурт "Дзяньніца". Напачатку ім кіравала таксама Ларыса. Яшчэ праз нейкі час яна адчула, што напоўніцу ўвасобіць ейныя пляны, датычныя выкананьня беларускага фальклёру, здолеюць толькі выхаваныя ёю самою з маленства выканаўцы. І Ларыса Сімаковіч робіць на-


Сцэна з балету «Нябога» (Заслаўе, пленэр «Легенда зь пяску»)

ЛАРЫСА СІМАКОВІЧ

# На злом

ступны знакавы для сябе крок — яна пачынае працаваць зь дзецьмі. Спачатку гэта дзіцячы фальклёрны ансамбль Палацу культуры тэкстыльшчыкаў. А потым Ларыса пераходзіць на Беларускае тэлебачаньне, стварае фальклёр-тэатар "Госьціца" і набірае туды трохгодак. Сярод былых майстроўцаў, якія таксама ў большасьці пасьпелі абрасьці сем'ямі ды дзецьмі, лічыцца за вялікі гонар аддаць дзіця "да Ларысы".

* * *

...Некаторыя рэчы супадаюць у прасторы й часе так дакладна, што міжволі пачынаеш думаць пра іхную невыпадковасьць ці перадвызначанасьць. Вясновы вечар. Майстроўня, якая пасьля філфаку прытулілася ў Палацы прафсаюзаў, зьбіраецца на сьпеўкі. Туды ж кіруецца й кіраўнічка — Ларыса Сімаковіч. Яна спускаецца з прыступак кансэрваторыі і бачыць, што на Пляцы Волі бульдозэры пачалі руйнаваць будынак першага беларускага тэатру. За некалькі хвілін Ларыса дабяжыць да Палацу і здыханым голасам паведаміць нам гэтую навіну. Па тэлефоне не ўдаецца зьвязацца ні з кім з уплывовых людзей. Часу на роздум няма. Мастакі сьпехам малююць даўжэзны плякат. З гэтым плякатам праз паўгадзіны мы выйдзем на грудок насупраць былога "Патсдаму" і пачнем скандаваць: "Руйнуецца помнік гісторыі! Руйнуецца помнік гісторыі!". Але пакуль плякат малюецца, кожны мае час на роздум: сысьці ці застацца. Яшчэ ніхто ня ведае, чым могуць пагражаць вулічныя акцыі пратэсту. Яшчэ не было прэцэдэнту. І таму мы, натуральна, баімся. Гэты страх мяшаецца зь ярасьцю і афарбоўвае нашыя галасы такой нязвыклай інтанацыяй, што той крык амаль дваццаць год стаіць у мяне ўвушшу.

...Пакрычаць на ўзгорку нам далі хвілін 10, ня болей.

Не сказаць, каб "рэпрэсіі" супраць мітынгоўшчыкаў былі надта ўжо страшныя. У турму нікога не пасадзілі, штрафаў не прызначалі (улады адрэпэтуюць такія дзеяньні значна пазьней). Па месцы вучобы або працы затрыманых зь міліцыі адправілі "цялегу". А там ужо начальства, камсамол і партыя мусілі разьбірацца з кожным "бунтаўніком" паасобку. Мелі непрыемнасьці некаторыя з бацькоў, калі яны займалі больш-менш значныя пасады (напрыклад, выкладалі ў інстытуце). Кагосьці са студэнтаў-майстроўцаў пазбаўлялі стыпэндыі, інтэрнату. У мяне асабіста ўсё скончылася сходам у кабінэце галоўнага рэдактара "Чырвонай змены" і атрыманьнем ці то вымовы, ці то папярэджаньня, забылася.

Ларысу Сімаковіч выключылі з кансэрваторыі "за нацыяналізм і прапаганду рэлігійных абрадаў", узгадаўшы ёй і здаваныя толькі пабеларуску іспыты, і сьпяваны ёе квартэтам "Ерусалім", і тое, як яна аднойчы прапусьціла заняткі, даверліва патлумачыўшы, што езьдзіла ў вёску на хрысьціны.

Напачатку была роспач.

"Чалавек ня можа паглядзець на сябе з заўтрашняга дня. Ён яшчэ ня ведае, куды павернецца лёс, і бачыць перад сабой толькі гэты жудасны факт: крах усіх плянаў".

Але Ларысе шанцавала на добрых пэдагогаў. На гэты раз ёй дапамог узьняцца Дзьмітры Смольскі. Цяпер ужо ён запэўніваў Ларысу, што кампазытарская дзейнасьць — менавіта яе шлях. І пераканаў.

...Можа, хто думае, што каб вярнуцца праз год на тое самае аддзяленьне, у тую самую навучальную ўстанову, дастаткова "аднавіцца" ў ёй, выканаўшы патрэбныя фармальнасьці? Ізноў жа ён памыляецца. Трэба здаць усе ўступныя іспыты нанова і зноў апынуцца на першым курсе. Трэці раз усё пачынаючы з чыстага аркуша.

* * *

Ішло лета 1994 г. У кампаніі ўсё тых жа былых майстроўцаў мы адзначалі чыйсьці дзень нараджэньня. Тэлевізар быў уключаны, але на яго ніхто не зьвяртаў увагі, папросту нешта там цурчэла, як у ручайку, нейкая музыка-танцы-воплескі. І раптам чуем: "Першае месца ў нацыянальным конкурсе прысуджаецца фальклёрнаму тэатру "Госьціца" за балет "Інтуіцыя міту". Гэта быў рэпартаж зь Віцебскага фэстывалю сучаснай харэаграфіі...

Мы замерлі, забыўшыся даліць налітыя чаркі і дажаваць каўбасу. Балет? Ларыса? Ну так, мы ўжо ведалі, бачылі, што "Госьціца" пад Ларысіным кіраўніцтвам ня толькі сьпявала беларускі фальклёр, але й пачала суправаджаць ягонае выкананьне нейкімі незвычайнымі рухамі — гэта былі й не рэканструкцыі старажытных карагодаў, і ня копіі традыцыйных вясковых танцаў... Карацей, ня тое, што дасёньня фіксуюць этнографы ў беларускіх вёсках. Ня тое, што яшчэ сяк-так прасьвечвае скрозь напластаваньні стагодзьдзяў, а, хутчэй, прамень у адваротным напрамку: які быў скіраваны з нашых дзён у гэтую непраглядна-зялёную смарагдавую глыбіню, адбіўся ад самым не дне ад чагосьці ўжо нябачнага і вярнуўся назад.

Ня ўсім з прыхільнікаў "аўтэнтычнага выкананьня" былі даспадобы Ларысіны экспэрымэнты ды вольнасьці з фальклёрам. Навошта, маўляў, патрэбныя ўсе гэтыя падскокі, павароты, прысяданьні, калі "народ сьпявае ня так"? Многія ў глыбіні душы дзівіліся, а то й шкадавалі, што "Госьціцу" ўсё далей заносіць кудысьці ў незразумелы бок, некаторыя адкрытым тэкстам раілі Ларысе "ўзяцца за розум"... Але каб з усяго гэтага раптам — фэстываль харэаграфіі? Першае месца?

Пачаўся гэты балет (на музыку Ларысы, натуральна!). Пра што ён быў? Пра ўсё, страчанае намі — і ўспадкаванае адначасова. Пра тое, што не дайшло, не захавалася, не перадалося ад прадзедаў нашчадкам у выглядзе цэласнага нацыянальнага эпасу, касмаганічнай міталёгіі, — але што прысутнічае, хаця й раздробленае на тысячы аскепкаў, у тых будзённых і звыклых дзеяньнях, што нават не фіксуюцца сьвядомасьцю. Вось рукі чалавека раскладаюць вогнішча. Кальшуць дзіця. Наліваюць ваду са збанка. Ларыса здолела ўбачыць і, галоўнае, паказаць гэтыя рухі так, што яны нібы засьвяціліся знутры, набылі галяграфічны аб'ём, напоўніліся цалкам іншым сэнсам.

Балет "Інтуіцыя міту", гаварылася ў анатацыі да яго, гэта "першая спроба тэатру перавесьці закадаваную мову фальклёру беларусаў на мову пластыкі. Гэта — спроба сучасным розумам і эмоцыямі зразумець тую інфармацыю, што даецца кожнай нацыі на пачатку яе роду".

...Мы сядзелі ў дружнай майстроўскай кампаніі, глядзелі балет і думалі, відаць, пра адно: як жа мы ўсе памыляліся, думаючы, што ведаем Ларысу. І не адразу нават заўважылі, што Ларыса... сама танчыць сярод дзяўчатак-падлеткаў! Тонюткая, стрункая, надзвіва пластычная. Гэта ўжо было занадта! Ну, урэшце, існуюць жа нейкія даведзеныя практыкай правілы й законы? Напрыклад, што пачынаць займацца харэаграфіяй трэба гадоў у 7 — і ўжо ніяк не пазьней за 12. Хто паверыць, што можна стаць да балетнага станка ў сталым веку і засвоіць клясычную харэаграфію? Ня ведаю іншага чалавека, апроч Ларысы Сімаковіч, каму б удаўся гэткі цуд. Увогуле ня ведаю чалавека з мацнейшай сілай волі...

Чаму раптам у яе жыцьці такое месца пачала займаць харэаграфія? Здавалася б, столькі іншых магчымасьцяў для самавыяўленьня — як дырыжорка, як кампазытарка, як фальклярыстка, як піяністка, нарэшце. Але "раптам" гэта магло выглядаць толькі для староньняга й ня вельмі абазнанага назіральніка. Ларыса з маленства была неймаверна захопленая балетам. Яшчэ школьніцаю яна ўцякала па вечарах у тэатар на балетныя спэктаклі — і вярталася ў інтэрнат апоўначы, самотна прабіраючыся паўзь цёмныя двары ды вулкі. Дванаццацігадовая дзяўчынка сама (!) перазнаёмілася ў тэатры з балерынамі і потым у антрактах заўсёды прыходзіла да іх у грымёрку. "Цяпер, з вышыні гадоў, я выразна бачу, што нават тады, калі я здавала ў школе выпускны іспыт па дырыжаваньні — у гэтым ужо прысутнічала харэаграфія..."

Імкнучыся, як і ўва ўсім, да дасканаласьці ў сваёй празе аваладаць харэаграфічным майстэрствам, у 1999 г. Ларыса — не паверыце — паступае ў кансэрваторыю чацьверты раз. На нядаўна створанае харэаграфічнае аддзяленьне. І яе прымаюць — чалавека, які ня мае нават пачатковай харэаграфічнай адукацыі! Але ня ўсе дзьверы можа адчыніць талент, хоць сабе й памнажаны на ўпорыстасьць ды ўзьведзены ў ступень працавітасьцю. Другая (ня кажучы ўжо пра трэцюю!) вышэйшая адукацыя ў нашай краіне цяпер можа быць толькі платнаю. Грошай на вучобу — немалых — у Ларысы, натуральна, няма. І тады народны артыст СССР, прафэсар Валянцін Елізар'еў (відавочна, уражаны незвычайнасьцю абставінаў) прымае абсалютна неардынарнае рашэньне: ён дазваляе Ларысе наведваць заняткі проста так, без усялякіх фармальнасьцяў.



**Сцэна з балету «Інтуіцыя міту»**

...Усё ішло добра, покуль студэнтам не задалі чарговага заданьня: прыдумаць варыяцыі фэі Бэзу (з балету "Прыгажуня ў сонным лесе") у клясычным, мадэрновым і авангардовым стылях. Адна з гэтых тэмаў неяк сама сабой перарасла ў Ларысы ў самастойны твор, працягласьць якога зь дзьвюх зададзеных хвілін павялічылася да васьмі. Рэакцыя пэдагога была нечаканай: "Я задаваў на дзьве хвіліны і на музыку Чайкоўскага, а Вы што прынесьлі?" І — ні слова па сутнасьці, ніякай ацэнкі, поўнае ігнараваньне... Ларыса адчула, што гэта зь ёй некалі ўжо было. Хор БРТ, праца хармайстрам, фактычная забарона мысьліць і дзейнічаць самастойна...

...Яна здолела здаць іспыты на харэаграфічнае аддзяленьне Акадэміі музыкі, бо пяць гадоў прыходзіла на ўрокі ў Опэрны тэатар — і займалася нароўні з прафэсіяналамі. Дазвол наведваць урокі ў Опэрным сыходзіў таксама ад Валянціна Елізар'ева, які нават і не здагадваецца, што падарыў Ларысе пяць найцудоўнейшых гадоў жыцьця. Бо ў гэтым тэатры (зь якім Ларыса з маленства мае нейкую містычную сувязь) яна сапраўды пачувалася дома: ёй было там спакойна і ўтульна.

Да таго ж, лёс па-ранейшаму дарыў Ларысе сустрэчы з таленавітымі пэдагогамі. Яна трапіла ў клясу да Аляксандра Мартынава. "Ён пэдагог-паэт. Ад яго выпраменьваецца настолькі роўная і абсалютная любоў да кожнага вучня..."

Праз пяць гадоў заняткаў Ларысу не пазнаў на ўроку знаёмы балетмайстар: запытаўся, што гэта за цікавая дзяўчынка. І тут Ларыса, як растлумачылі Ларысе, "тэатар перайшоў на новы рэжым працы", і яе папрасілі здаць пропуск.

На апошнюю сваю рэпэтыцыю яна прынесла Аляксандру Мартынаву вялікі букет ружаў. І, сыходзячы з тэатру назаўсёды, нечакана пачула за сьпінаю апляадысмэнты.

* * *

У ліпені 2000 г. у маёй кватэры зазваніў тэлефон, і я пачула Ларысін голас: "Прыходзь на мой канцэрт у Нацыянальны мастацкі музэй". — "Гэта будзе выступленьне "Госьціцы" ці канцэрт з тваіх інструмэнтальных твораў?" — перапыталася я. — "Не. Гэта будзе мой сольны вакальны канцэрт. Ты яшчэ ня чула мяне ў гэтай якасьці..."

Паклаўшы слухалку, я адчула, што ў мяне зьлёгку едзе дах. Рэч у тым, што чыста вонкавы кантраст паміж "вакалістамі" і "танцорамі" зафіксаваўся ў маёй памяці аж надта яскрава. Калісьці, у часы другой беларусізацыі, мне давялося весьці ў нашым Опэрным тэатры курсы беларускай мовы. Заняткі заканчваліся дзесьці аб адзінаццатай, і якраз у гэты час пачынаўся перапынак у артыстаў. Яны зьбіраліся ў тэатральным буфэце разам: бязважкія балерыны ў махровых халатах паверх трыко пілі сок, мажныя сьпевакі застаўлялі падносы сьмятанай, булачкамі, біфштэксамі... Мяне вельмі забаўляў гэты дыхатамічны падзел тэатральнага сьвету, гэтая зрокавая апазыцыя двух вялікіх музычных жанраў. Але каб адзін чалавек наважыўся паяднаць у сваёй асобе і адно, і другое?

...У мастацкім музэі акурат экспанавалася выстава Шагала, таму я прыехала задоўга да пачатку канцэрту і паднялася на галерэю. Якраз там мяне і засьпеў першы гук — выканаўца расьпявалася перад выступам. Але гэта не магла быць Ларыса, гэта быў абсалютна не яе голас! Я перагнулася цераз балюстраду. Вочы па-ранейшаму спрачаліся з вушамі. Ля рояля сапраўды стаяла неверагодна прыгожая Ларыса Сімаковіч, але голас, які запаўняў усю прастору музэйнае залі, належаў камусьці, з кім я яшчэ не была знаёмая. Бо ранейшую Ларысіну

Працяг на старонцы 8.

# «Наша Ніва» 90 гадоў таму

**Сьвянцяны,** Віленск. губ. 8 лютага быў тут суд над Тадэвушам Клімашэўскім, каторы закалоў нажом карэспандэнта "Нашае нівы" Э.Якубовіча. Клімашэўскага бараніў адвакат і абараніў так, што таго засудзілі за убійства ўсяго на адзін год у адседку, год надзору паліцыі і на духоўную пакуту.

**Голуб**

**Вільня,** 3 дні — ад 4 па 6 марца — на Лукіскім рынку быў вялікі кірмаш; можа, быў бы яшчэ больш, каб ня слота на першы дзень: цэлы дзень пляскаў мокры сьнег. Усё ж ткі навязьлі дабра шмат, а народу было дык і надта многа. Можа за тым і даражыня трымалася на прывазныя рэчы. Найбольш было навезена драўляных рэчаў: начовак, вёдзер, цэбраў, рашот і т.д. Начоўкі — так 1 арш. 4 в. даўжыні і 10 вярш. шырыні прадавалі па 4 і 5 злоты. Цэбры як асьміна вялічыні па 1 р.

**С.Гінеўцы,** Віл.г. Ашмянскі п. — Увосень кожнага году гінеўцы езьдзяць па лясох і скупліваюць кляны. Накупіўшы клёну, яны праз усю зіму выробляюць зь яго лыжкі. Каб не выходзіла шмат газы, седзючы па вечарах, злучаюцца па 10 гаспадароў і па чарадзе робяць адзін вечар у адной хаце, другі — у другога і т.д., карыстаючы з аднаго сьвятла. Тутака ад маленькага 6–7 гадкоў хлопчыка да дзядулі 80 гадоў — кожны мае работу каля лыжак. Сталы чалавек выробляе ў пару каля 50 лыжак. Лыжкі гінеўцаў вельмі харошыя і моцныя. Іх знаюць і ахвотна купляюць па 30 вёрст кругам. Перш лыжка прадавалася па 3–4 грошы, а цяперака па 5–6 капеек. Гінеўцы кажуць, што зь іх кожын мае чыстага заробку ў пару каля 2 руб.

**Янучонак**

**10 Сакавіка 1911 г. №9-10.**

Працяг са старонкі 7.

# Мяжа трываласьці на злом

манеру сьпяваць я ведала зусім нябалага, дый шмат хто з чытачоў "НН" таксама — не ў адной маёй сям'і дзеці засынаюць пад касэту зь беларускімі калыханкамі, даўным-даўно запісанымі Ларысай на радыё. Мяккая, пяшчотная, утульна-хатняя афарбоўка яе тэмбру ў гэтых калыханках цудоўна надавалася для песенек "пра ката-варката". І шмат каго гэтая "свойскасьць" зьбіла з тропу. У сваёй кнізе "Лінія, што йдзе ў бясконцасьць" (1999 г.) Юлія Чурко акрэсьліла голас Ларысы Сімаковіч як "невялікі, але чысты". Сумнеўны камплімэнт для прафэсіянала, скажам шчыра. Але адкуль было ведаць Юліі Чурко, уражанай балетнымі дасягненьнямі кіраўнічкі "Госьціцы", што Ларыса ўжо некалькі гадоў мэтаскіравана працуе і над сваім вакалам?

На канцэрце ў Нацыянальным мастацкім музэі голас Ларысы Сімаковіч гучаў магутна й раскошна. Яе найпрыгажэйшае лірыка-каляратурнае сапрана адну за адной скарала вяршыні сусьветнага бэльканта — Керубіні, Гендэль, Пэргалезі, Страдэла, Рымскі-Корсакаў, Чайкоўскі, Пучыні, Варламаў... Думаць не хацелася ні пра што. Хацелася стаць пад плынь гэтага голасу і бясконца слухаць, слухаць яго, адчуваючы, як ён струменіцца скрозь кожную клетачку істоты. Гэты голас гаварыў, што ў жыцьці ёсьць надзея і сьветласьць, і ён сам быў гэтай сьветласьцю. Ужо пасьля чацьвертага твору выбухнула першая авацыя, якая фактычна не сьціхала да канца канцэрту, перапыняючыся толькі выкананьнем нумароў. Адбівалі сабе далоні і тыя, хто прыйшоў паслухаць Ларысу, і тыя, хто апынуўся на канцэрце выпадкова — завітаўшы на выставу славутага земляка. Сярод апошніх быў і першы намесьнік міністра культуры Уладзімер Рылатка. Ён некалькі разоў пераходзіў зь месца на месца, слухаў з розных кропак — з галерэі, зь лесьвіцы. Па твары было відаць: як музыкант ён зразумеў, што сутыкнуўся з унікальнаю зьявай — але ня можа адразу ў гэта паверыць. А пасьля канцэрту ў яго зь кінарэжысэрам Віктарам Шавялевічам адбыўся красамоўны дыялёг:

— Ну, як уражаньні? — папытаўся Шавялевіч.

— Ведаеце, для мяне гэта было адкрыцьцё, — шчыра сказаў Рылатка.

— Што, Шагал?

— Не, Сімаковіч...

Пра гэтую размову Віктар Шавялевіч апавядае праз некалькі дзён пасьля канцэрту, калі мы з Ларысай сядзелі ў рэпэтыцыйным пакоі "Госьціцы" і спрабавалі разважаць на тэму: а што далей?

Каб жа гаворка ішла пра нейкую маладую й нікому не вядомую сьпявачку з такімі вакальнымі дадзенымі, ясная рэч, што трэ было б ісьці да дырэктараў Опэрнага тэатру, філярмоніі і крычаць пра тое, што й на нашых суглінках часам трапляецца самародкавае золата. Але Ларыса Сімаковіч — далёка не пачатковец. Яе дасягненьні ў розных сфэрах музычнага мастацтва неаспрэчныя. І я ніколі не паверу, што яна пагадзілася б звузіць абсяг свае творчасьці да адной толькі кар'еры сьпявачкі. Таму й пытаюся: якія яе амбіцыі ў гэтай галіне?

Ларыса адказвае проста. Што яна цяпер валодае сваім голасам настолькі, што адчувае ў сабе сілы брацца за самыя складаныя вакальныя партыі. Што на канцэрце яе не асьляпіла захапленьне публікі — наадварот, яна выразна ўбачыла свае слабасьці, і цяпер дакладна ведае, у які бок кіравацца. "Тэхнічны момант зроблены — рэгістры выраўнаныя, голас паддаецца. Тая праца, якая засталася, — гэта суцэльная асалода. Гэта маніпуляцыя з тонкай гукавой матэрыяй, якая сама кудысьці разьвіваецца, а ты слухаеш і спасьцігаеш. Няма мяне, і слухачоў няма, а ёсьць тое, што ёсьць у гэтым гуку, і яму трэба даць адбыцца... Гук — гэта хваля, якая нясе інфармацыю. Ад характару інфармацыі залежыць узьдзеяньне гуку, пры слушнай інфармацыі яно павінна быць лекавым. Гукам, як лязэрам, можа ачышчацца прастора".


Юры Плюшчай

Ларыса марыла б, напрыклад, пра канцэрт у Камэрнай залі філярмоніі. Але ідыятызм сытуацыі ў тым, што чалавек, які двойчы скончыў кансэрваторыю па іншых спэцыяльнасьцях, ня можа лічыцца прафэсійным сьпеваком — і таму ня мае права ні на залю для сольнага канцэрту, ні нават на афішу для яго.

"Дык як жа табе не прыйшла ў галаву самая натуральная думка — што трэба паступіць у кансэрваторыю пяты раз?" — не вытрымліваю я.

Мы сьмяемся разам, але ня надта вясёлым сьмехам, усьвядоміўшы, што абсурду ў гэтай ідэі ніяк ня больш, чым лёгікі.

* * *

той жывы заўсёды спажывае
нейкі боль
(няхай сабе ня пяць!)
проста дзьверы на пятлі іржавай
ветрам вернасьці рыпяць
рыпяць
рыпяць
нехта адчувае болю болей
выйсьце бачыць жадны
на ўвесь сьвет
бо калі ні выхаду ні болю
дзе мастак
музыка
дзе паэт

Верш належыць Барысу Жанчаку, мужу Ларысы Сімаковіч. Пра гэты ўнікальны саюз двух надзвычай творчых людзей — музыкі і паэта — варта, безумоўна, напісаць асобны артыкул, а яшчэ лепей — апавяданьне ці паэму, і я вельмі спадзяюся, што нехта некалі зробіць гэта лепш за мяне.

У тым будучым творы знойшлося б месца і рамантычнаму каханьню (малады настаўнік Барыс Жанчак выкладаў Ларысе беларускую мову, калі яна вучылася ў "Парнацэ"), і вернасьці, і ахвярнасьці, і дзясяткам супольных творчых праектаў. Апошні зь іх — "Тры алегорыі Праялебнай Панны" для голасу і камэрнага складу. Адна з частак гэтага твору гучыць на кампакт-дыску "Легенды Вялікага Княства". А той, хто трапіў 3 сакавіка ў Палац дзяцей і моладзі на рыцарскі фэст, мог пабачыць "Алегорыю..." і ў харэаграфічным увасабленьні. Дарэчы, калі хто ня ведае: хлопец, які падчас выступу "Госьціцы" пранікнёна сьпяваў народныя песьні, а таксама выконваў у "Алегорыі..." ролю Музыкі-Ваяра, — гэта Ян Жанчак, студэнт першага курсу музычнай вучэльні.

...Жанчына, якая з маленства перадусім выбірае прафэсійную творчасьць, якая жыве не ў кватэры, а ў музыцы, мала надаецца на ролю "хатняе кОтачкі", і конкурсы на лепшую вышываную сурвэтку яе ня звабяць таксама. Але гэта значыць толькі тое, што шлюбы творчых людзей ня мусяць ацэньвацца паводле традыцыйных крытэраў.

Асабіста ў мяне саюз Барыса Жанчака і Ларысы Сімаковіч выклікае здаровую зайздрасьць. Па-мойму, гэта проста неверагодная ўдача — ведаць, што можаш ва ўсім спадзявацца на чалавека, з кім назаўсёды злучыў свой лёс. Што калі ты ня маеш часу гатаваць вячэру, то папросіш мужа, і ён падсмажыць бульбу. А калі табе спатрэбіўся тэкст для новай песьні, ты таксама зьвернешся да мужа (бо хто лепш за яго адчуе, якіх менавіта словаў ты прагнеш?). І ён для цябе абавязкова напіша выдатны верш. Напрыклад, вось такі:

гэта воблака з тваім воблікам
зьбег дажджынак ці ветру зьбег? —
гэта я адзінотай восеньскай
гэта я ўспамінаю цябе

гэта намарaзь нібы навалач
паўтарае цябе цяпер
што мароз са сваёй выяваю —
гэта я ўспамінаю цябе

хай вятрыска блакіт пратоpуе
за акном лядзяш растае
што ні ўбачу — дык непаўторныя
адшукаю рысы твае

* * *

За 20 гадоў творчай дзейнасьці кампазытарка Ларыса Сімаковіч напісала музыку да спэктаклю "Калыска чатырох чараўніц", пастаўленага ТЮГам, музыку да ўсіх фільмаў Віктара Шавялевіча з цыклю "Да вас, сучасьнікі мае", сымфонію, сымфанічныя карціны "Мураванка" і "Пачатак роду", пастараль "Зьвеставаньне", інструмэнтальныя п'есы, шмат твораў для зьмяшанага складу хору і мноства песень. З усяго пералічанага гучала толькі музыка да фільмаў і спэктаклю.

Ёю створаныя для "Госьціцы" харэаграфічныя мініятуры "Яблычны спас" і "Шляхамі ў вечнасьць", а таксама шэсьць аднаактовых балетаў — прычым, падкрэсьліваю, створаны ад пачатку і да канца: ня толькі музыка, але і харэаграфія, і пастаноўка. Сярод іх, апроч "Інтуіцыі міту", "Нябога" (кажучы словамі самой Ларысы, твор "пра сустрэчу з самім сабой, пра тое, як сутыкаюцца дабрыня й агрэсія, якія жывуць у кожным чалавеку"), "Калінаў мост", "Эўтаназія. Апошні рытуал", "Нацыянальны інтерес" (як напісала "Культура", "трэба ведаць беларускую патрыётку Сімаковіч, каб ацаніць сарказм назвы, наўмысна расейскамоўнай"). І яшчэ "Жах", аднойчы паказаны ў філярмоніі на канцэрце "Госьціцы". Ён мае падзагаловак "Сучасная байка" і ўвесь пабудаваны на аўтэнтычных прыказках, прымаўках і песьнях, спалучаных з харэаграфіяй у стылі фолькмадэрн. Што ж датычыць змрочнай назвы, дык Юлія Чурко слушна заўважыла, што гэты балет "працяты трагічным сьветаадчуваньнем".

Пабачыўшы некаторыя з гэтых балетаў, рэжысэр Валеры Мазынскі сказаў, што такое эмацыйнае ўзрушэньне, якое робяць Ларысіны творы і яе акторы, ён вельмі рэдка адчуваў на драматычнай сцэне. Але паглядзець Ларысіны харэаграфічныя творы немагчыма, бо "Госьціцы" няма дзе іх паказваць — тэатар амаль не выступае. Больш за тое: калектыў, які фармальна існуе пры Беларускім тэлебачаньні, апошні раз здымаўся тым самым тэлебачаньнем у 1998 г., дый то вельмі фрагмэнтарна. З усіх балетаў тэлебачаньне дэманстравала толькі "Інтуіцыю міту" — у рамках трансьляцыі з ужо згаданага Віцебскага фэстывалю. Інакш, як сьвядомым ігнараваньнем, замоўчваньнем, зьдзейсьненым на чыйсьці загад, такое стаўленьне не назавеш.

"Госьціца" стваралася, калі тэлебачаньне ўзначальваў Генадзь Бураўкін. Ён сам быў вельмі зацікаўлены ў гэтым калектыве, і таму стваральнікам ўсе ўмовы для працы фальклёр-тэатру, часта запісваліся перадачы зь ягоным удзелам. Зьмянілася кіраўніцтва — зьмянілася і стаўленьне. У 1999 г. Ларысе нават не перадалі запрашэньне на чарговы Віцебскі фэстываль сучаснай харэаграфіі, якое прыйшло на адрас тэлебачаньня з пазначэньнем калектыву і кіраўніка.

У фальклёр-тэатру няма мэнэджэра, які б займаўся арганізацыяй канцэртаў, як няма і магчымасьці ўзяць чалавека на гэтую пасаду, бо штатны расклад не прадугледжвае такой адзінкі. І калі нават аформіць патэнцыйнага мэнэджэра "артыстам ...катэгорыі" — то хто ж пагодзіцца працаваць за жабрацкі аклад 28 тыс. рублёў? Да слова: аклад самой Ларысы Сімаковіч як кіраўніка мастацкага калектыву на Беларускім тэлебачаньні складае каля сарака даляраў. Гэта адзіная яе крыніца даходу. І зараз вы зразумееце, чаму я мушу пра гэта сказаць.

* * *

Нядаўна мне трапіліся словы польскага філёзафа Кшыштафа Чыжэўскага, якія ўразілі сваёй жорсткай дакладнасьцю.

"Ты можаш шмат гадоў сумленна над нечым працаваць, можаш многаму навучыцца і шмат дасягнуць, але ў жыцьці прыйдзе такі момант, калі ты ўсё аддасі, калі табе давядзецца аддаць гэта ўсё за бесцань, за фігу з макам. І калі ты й надалей будзеш стаяць на сваіх нагах, калі не затрэсца тваё імя, гэта значыць, што ўсе гэтыя гады ты працаваў над нечым зусім іншым, нечым непараўнальна больш важным, чымся нейкія званьні і становішча ў сьвеце".

Жыцьцё часта падаецца нам роўнай, даволі аднастайнай і трошкі нудотнай чарадой дзён — але толькі да моманту, пакуль ня здарыцца штосьці, што ўшчэнт зруйнуе гэтую стабільнасьць і не пакіне каменя на камені ад звыклага сьветаўпарадкаваньня. Падрыхтавацца загадзя да такога выпадку немагчыма. Пры сустрэчы зь ім нельга не разгубіцца. І ў першае імгненьне гэтага землятрусу чалавек заўсёды застаецца адзін пад заваламі.

А вось далей бывае па-рознаму. Ён можа вельмі хутка скапаць у самоце і цемры, згубіўшы надзею вырвацца з палону, — а можа пачуць праз тоўшчу абрынутага бэтону далёкія галасы сяброў. І будзе трываць, ведаючы, што яго абавязкова выцягнуць.

Некалькі месяцаў таму ў Ларысы Сімаковіч пачаліся праблемы са здароўем. Раптоўна і катастрафічна. Гэта не сьмяротная хвароба, дзякаваць Богу. Аднак вылечыць яе кансэрватыўнымі сродкамі — гэта значыць, без апэрацыйнага ўмяшаньня — сёньняшняя мэдыцына ня ў стане. Але ж такія апэрацыі звычайна робяць у веку, калі людзей больш не хвалююць ненапісаныя сымфоніі і непастаўленыя балеты!.. Ня кажучы ўжо пра магчымыя ўскладненьні. І пра неверагодныя грошы, якіх гэтая апэрацыя каштуе.

З уласьцівым іхнай прафэсіі драбочкам цынізму хірургі дадаюць: крытэрам для неадкладнай апэрацыі можа служыць толькі ўласнае адчуваньне болю. Гэта значыць, пакуль можаш — цярпі. Жыві на анальгетыках, спрабуй перасоўвацца ракам ці бокам — гэта твае праблемы. Але памятай, што ад гэтага болю ты не ўцячэш нікуды, апроч хіба пад лязо скальпеля.

Што такое цярпець гэты боль, безумоўна, не апішаш словамі. "Уяві сабе лямпачку ў 500 ват, якая ўвесь час засьціць увесь навакольны сьвет, і нельга ні адвесьці вачэй, ні заплюшчыць іх. Гэта прыблізна тое самае".

У дні, калі дапамагаюць якіясь моцныя лекі, Ларыса езьдзіць на рэпэтыцыі, ставіць для "Госьціцы" новыя харэаграфічныя нумары. "Я глыбока перакананая, што мастака, музыку нехта павінен, што называецца, пхаць у плечы. Каб яму не даводзілася самому хадзіць, напрыклад, у той самы мастацкі музэй і прапаноўваць свой канцэрт. А ў адказ чуць ад дырэктара, які яшчэ й у вочы ня бачыў ні мяне, ні "Госьціцы", — "Нам лапці ў музэі непатрэбныя". Такія рэплікі мяне забіваюць, і трэба шмат часу, каб ізноў узьняліся апушчаныя рукі. Калі я выконваю абавязкі мэнэджэра, дык адчуваю, што займаюся сваёй асобай, а калі працую творча, то займаюся нечым іншым, нашмат важнейшым. Я ўсё чакаю, калі ж тое, што я раблю, спатрэбіцца некаму яшчэ. І ведаю, што магу не дачакацца".

Ня ведаю, ці валодае хто-небудзь з чытачоў "НН" дастатковай уплывовасьцю, каб дапамагчы "Госьціцы" і самой Ларысе прабіцца да гледача. Але ёсьць рэчы, якія нам пад сілу зрабіць безумоўна. Па-першае, мы можам сабраць для Ларысы грошы — лекі і мэдычныя паслугі, якія патрэбныя ёй, шалёна дарагія. Па-другое, Ларысе зараз вельмі прыдаўся б кампутар — "я не самотны, я выхад маю на сэрвэр пана Марціна Кухты..." Па-трэцяе, — хаця я ня веру ў цуды — чыесьці мэдычныя парады, верагодна, маглі б прынесьці ёй прынамсі часовую палёгку.

Я амаль ня веру ў дзівосы, але ўсё ж напішу і пра ідэі з разраду фантастычных. Кансультацыя ці, магчыма, лячэньне за мяжой. А хто ведае, а раптам?.. Беларусы ў сьвеце жывуць паўсюль. Сярод іх, безумоўна, ёсьць і людзі набедныя — а што мы, нацыя зломкаў, у рэшце рэшт?

Нас усіх — хто прачытае альбо можа прачытаць гэты нумар газэты — рэальна ўжо шмат. А Ларыса Сімаковіч у нас адна. І самыя гучныя словы ў яе адрас заслабыя, каб быць адэкватнымі.

...Кожнаму ў маленстве даводзілася забаўляцца з дроцікам: перагінаць яго туды-сюды, туды-сюды, аж пакуль тонкі мэтал ня вытрымае й зломіцца. Але нікому ня думалася, што ролю такога дроціка мы будзем усё жыцьцё станавіць сабой. Напэўна, яна даецца чалавеку разам зь несьмяротнаю душою — мяжа трываласьці на злом. І хутчэй за ўсё, апякуючыся першым, мы павялічваем другое.

**Віялета Кавалёва**

# Віктар Шніп

* * *

Мы пражылі дваццатае стагодзьдзе,
Як дзень адзін, самотны, нібы сон,
І сьветлы, нібы зорка ў мёртвым лёдзе,
І чорны, як на рэштках Храма звон.

Мы аддалі дваццатае стагодзьдзе
Вятрам, якія падымалі пыл,
І пыл стаяў, нібыта крыж прыродзе,
І на крыжах трымаўся небасхіл.

Мы прапілі дваццатае стагодзьдзе,
І нас амаль няма, ёсьць толькі крык,
Што мы жывыя, што мы не ў балоце,
Хоць шмат хто з нас народам быць
адвык...

Мы пражылі дваццатае стагодзьдзе...

## Баляда волі

Не пускайце мяне вы на волю,
Не шапчыце пра волю вы мне,
Бо люблю сваю сумную долю,
Нібы костачку вішні ў віне.
А дзе воля – ніхто з вас ня знае
І ніколі ня будзе ўжо знаць,
Бо над вамі ўжо д'ябал лятае
І ў вас вочы, як пекла, гараць.
Не пускайце мяне вы на волю,
Бо я волі баюся, як вы,
Бо я ваш, бо я з вашага поля,
Дзе ўздымаецца попел сівы
Аж да хмар са згарэлага Храму,
У якім не маліліся мы,
А малілася нашая мама,
Каб ня зналі сумы і турмы
Адзінокія, сумныя дзеці,
Што хацелі, каб лепей было...
Не ўтрымаць вам мяне, бо я – вецер,
І ў віне я ня бачу сьвятло...

* * *

Вялікая, самотная Расія,
Заўсёды ў золаце і ў лахманах,
Глядзіш у далечы, табе чужыя,
Нібы на голае дзяўчо манах.
А мы ня ўдалечы, мы прад табою,
Ня бойся, мы нікуды не ўцячом
І не зьнясем сваю зямлю з сабою
Ні ноччу цёмнай, ні найсьветлым днём.
Вялікая, самотная Расія,
Як многа азіятчыны ў табе,
Ды гарады люблю твае малыя,
Дзе ў ноч на вадасьцёкавай трубе
Іграе вецер Глінку для паэта,
Які прыехаў не з краёў чужых,
А зь сьветлага бярозавага лета,
Дзе многа прыгажуняў маладых,
Што хочуць годна жыць пад родным
небам,
Дзе вечна продкі нашыя жылі,
Якім зямлі чужой было ня трэба,
Ды не цураліся сваёй зямлі.
Вялікая, самотная Расія,
Вялікай будзь, як боскія дамы,
Не з-за таго, што зьнікнем мы, "малыя",
А з-за таго, што будзем мы!

### Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

* * *

Гады бяруць разьбег,
Задумайся глыбока,
Прыгледзься да сябе,
Прыгледзься пільна з боку
Высокай той гары
Крутой – магілы брацкай!

Гарачая пара
Настала
Разабрацца:

Хоць кожны не сьвяты,
Ды ўсе твае пралікі
Вялікія у тым,
Што часам ты – двулікі!

Нялёгка быць сабой.
Цяжэй, чым сам, быць
лепшым.
Вядзі з сабою бой –
Ў табе твой вораг зьлейшы!

Ён гнеў твой разьдзімаць
Амаль зь нічога ўмее!

А ты сябе трымай –
Хоць рукі занямелі!

Імкні сябе,
Куды
Сумленьне папрасіла б,
Свой шлях трымай, як
сьцяг,



АЛЕНА АДАМЧЫК

## в а р ш т а т ы

Хоць – сьмерць вачмі
касіла б!

Калі за праўду йдзеш,
Страшней за ўсё – збаяцца!

Героі за цябе ж –
Гарой магілы брацкай!

Ну як ты апраўдаць
Надзеі іх ня зможаш
І ворага свайго
Зацятага ня зможаш?!

Ні ў якім – не забудзь
Пра доўгі доўг свой самы:
Ты Чалавекам будзь
З апошніх сіл часамі!

### Віка

*НЕ ХВАЛЮЕ*

Не хвалюе прыхільнасьць да
роднае мовы,
Бо забыўся на самыя
простыя словы,
Бо заплюшчаны вочы ад
раньня да ночы,
Бо ня здольны да цёмнай
кватэры дакрочыць.
Хай глядзяць і сьмяюцца з
такога прывіда,
У азёры плююцца свайго
краявіда,
Спадзяюцца на чорнае
злоснае сонца,
Што няшчадна ўсё губіць і
паліць бясконца...

Не хвалюе прыхільнасьць да
роднае мовы,
Як забыўся на самыя
простыя словы.

### Натальля ДЗЕНІСЮК

* * *

Бог жыве на небе?
А можа, ў нашых душах?
А, можа быць, і недзе,
дзе зараз нас няма?
Няма і ўжо ня будзе
і не было ніколі.
І ці жывем напраўду
у гэтым сьвеце мы?

### Вольга КАЛЕНІК

* * *

...І быў водгук мэлёдыі –
дрогкі
на кончыках пальцаў
мяккі пылок хваляваньня.

І быў водар мэлёдыі –
водар азёрнага срэбра
ў перастаялай траве.

І быў смак у мэлёдыі –
водбліск апошняга промня
ў вясёлкавым крышталі.

І быў подых мэлёдыі –
сон адзічэлага ветру
ў сьпелым закінутым садзе.

І быў смутак мэлёдыі –
па сьвятле ў нескнчонай
начы,
па Храме ў засьмяглай
пустэльні
і па забытай Радзіме.

* * *

Вечар
нажніцамі стрэлак
на цёмнай сьцяне
рэжа хвіліны маўчаньня
па сёньняшняй порцыі
стрыманага захапленьня
здольнасьцю сонца
паміраць несапраўдна,
даючы зразумець
бескарыснасьць
начной дыядэмы.
Потым, на золку,
першы ж промень зруйнуе
тысячы закаханасьцяў
у далёкія зоры,
а зараз –
час наліваецца
мэнтолам ночы,
легкаважна забыўшы,
што хутка
прыйдзе
зіма.

### Натальля КАСЬЦЯНОК

* * *

На досьвітку –
вясновых зёлак водар,
Іскрыцца срэбрам
невядомы шлях.
Здаецца, мне аднога толькі
шкода,
Што не магу імчаць
на цягніках...
Куды? Туды,
куды бяжыць чыгунка,
Дзе колераў і гукаў
карагод,
Пад грукат колаў
цягніковых гулкіх,
Як не чакаць,
як не шукаць
прыгод?

*МЫ — КАНСТАНТА*

*Сьвятлане С.*

Мы – канстанта,
Душа Атлянта –
Моцная,
Непарушная.
Мы – дарога,
Абраная Богам, –
Сьвятая,
Адзінадушная.

Сонца гарачае – жыцьцё...
Каханьне – гарачае
сэрцабіцьцё...
А Вясна – гэта Мы,
І Пачатак – Мы.
Усюды Мы, дзе няма зімы.

### Мая ЛЬВОВІЧ

*ЖЫВОЕ ІМЯ НАРОДУ*

Імя народу на шляхах,
Якімі продкі йшлі,
Ты гуку роднага шукаў,
Ды гук нямы, чужы.

А можа, і гаворыць ён,
Мо ты ня чуеш – сьпіш.
Такім, як быў, такім, як
ёсьць,
Чытай свой імясьпіс.

### Віталь РАВІНСКІ

*ПРЫЗНАЧЭНЬНЕ*

З наканаваным сустрэўшыся
векам,
Каб не дарэмна растраціць
яго,
Трэба, прыйшоўшы на сьвет
чалавекам,
Ім і застацца да скону
свайго.

Каб не лічыцца ў людзей
недарэкам,
Годнае месца між імі
займець,
Трэба ўсьвядоміць сябе
чалавекам,
Сэнс існаваньня свайго
ўразумець.

Не саступаючы крыўдам
і зьдзекам –
Хай бы якая бяда ні была –
Трэба пражыць на зямлі
чалавекам,
Ёй не пакінуўшы ў
спадчыну зла.

Не ўратаваць нас замовам
і лекам –
Як ні адхрышчвайся ад
небыцьця:
Трэба сыходзіць зь зямлі
чалавекам,
Не сапсаваўшы канцоўкі
жыцьця.

І, пры разьліку
з адпушчаным векам,
Боль з асалодай прыняўшы
яго,
Тое – якім ты пражыў
чалавекам, –
Будзе цаной існаваньня
твайго.

### Валянціна РАШЭТНІК

*ДА СОНЦА І СВАБОДЫ*

Прыходзіў Ён адтуль, дзе
вольны вецер,
Дзе сонца і свабоды –
цераз край.
Прасіў: «Мяне больш не
шукай
На тым далёкім ладным
сьвеце.

Мяне ты ці пазнаеш, як
сустрэнеш?
Мой храм навокал будзе. І
нідзе –
Для тых, хто з ношаю
брыдзе,
Хто цягне крыўды,
бы каменьне.

Ты лепш знайдзі хоць колькі
добрых словаў,
Пачуцьце сьветлае дадай
да іх,
Дашлі заслонам
для сьляпых –
На душы, сэрцы
нездаровых.

Адыдзе хай нянавісьць
у былое,
А зь ёю разам здрада
і хлусьня –
Цябе ж зьнявечыць
мітусьня.
Разьбі люстэрка ты крывое.

І ў кожным – злым ці
добрым – чалавеку
Убачыш ты тады сябе хоць
раз.
Праклён ня скажаш, каб ня
згас
Агонь жыцьця ў самім да
веку.

Ланцуг твой – сэрца. Сэрца
– твае крылы.
Ты моцна прыкаваны да
зямлі –
Малі да Бога – не малі –
Пакуль хоць дзень табе
нямілы.

Я ведаю: і ты сьніш вольны
вецер,
Руку даю – сваю мне
працягні,
Спакойна ў заўтра зазірні:
Бяз гора будуць твае дзеці.

Жыцьцё маё – твой лёс.
Дарма ня трызьні.
Адчуеш, веру, сам, што час
настаў.
Успомніш пра мяне,
Хрыста,
І сьвет увесь наноў
спасьцігнуць».

# Горкі кавалак хлеба


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

*эсэ*

Раней, калі на стале селяніна ляжаў пад абрусам бохан хлеба, лічылася, што сям'я жыве ў дастатку, што гаспадар заможны. Але не заўсёды так бывала цягам таго часу, які мне ўжо пашанцавала пражыць.

Успамінаецца раньняе маленства, калі я мог схавацца ў жыце на асабістым бацькавым шнуры на паплавах, нарваць на мяжы васількоў і нават паласавацца каля вялікай грушкі.

Аднак хлеба на стале пад абрусам ня памятаю. "Чэкар" (гэтак называла маці нас, сваіх пяцёх нашчадкаў) не дазваляла яму залежвацца і чарсьцвець. Тыя тры-чатыры "як жарон, буханкі хлеба", якія пякла маці два ці тры разы на тыдзень, зьнішчаліся намі старанна да апошняй скарынкі. Час ішоў, мы падрасталі, "заместа палосак убогіх і вузкіх калгасныя нівы, як мора, ляглі". Аднак мукі ў нас ад гэтага не пабольшала, і хутка хатні хлеб маці перастала выпякаць. Мы, дзеці, цяпер толькі ўспаміналі, як церліся ля прыпеку, замінаючы маці дастаць зь печы круглы, пахучы, пульхны, часам падгарэлы бохан, каб адкалупнуць пачарнелую скарыначку і паласавацца ёй. Цяпер хлеб, набыты ў краме, хаваўся ў куфар пад замок і прыносіўся да стала толькі падчас абеду. А каб купіць кілё ці два хлеба (у адны рукі больш не давалі), яшчэ трэ было кілямэтры два ісьці да крамы, займаць чаргу, лепей зь вечара, начаваць там. І тады ўжо, калі ня выціснуць з чаргі, можна было мець гарантыю, што сям'я пасьнедае з хлебам.

Калі ж не атрымлівалася, елі праснакі — прэсныя аладкі, замяшаныя на жытняй ці ячнай муцэ і вадзе, сьпечаныя на патэльні. Каб атрымаць муку, нам, дзецям, трэ было прыцемкам ісьці на калгасную ніву па каласкі. Іх потым сушылі на печы, выцярушвалі зярняткі, веялі і ішлі да суседа, у якога цудам захаваліся жорны (бо ў астатніх сяльчан калгасныя актывісты паразьбівалі іх на дробныя кавалкі), — змалоць на муку. Цяпер ужо думкі аб кавалку хлеба не пакідалі ні малых, ні старых.

Хто мог купіць, купляў, хто не — пераходзіў на "другі хлеб", ці, як цяпер кажуць, — "бульбяную дыету". Адсюль, відаць, і ганебная нашая мянушка — "бульбашы".

Гэта адбывалася ў тыя часы, "калі мы былі багатыя мясам, і хлебам, і рыбай", а некаму ўжо "па трубах да хат прыбягала вада". Цяжка ўспамінаць пра лусту хлеба і ў ваеннае ліхалецьце. Хай яно сабе! На вайне, як на вайне, як цяперака ў Чачэніі...

А жыцьцё людзкое бяжыць і часам зьмяняецца, людзі нараджаюцца і паміраюць, а хлеб, як і спрадвеку, для простага чалавека застаецца асноўным харчам.

У найноўшыя часы, калі за цюменскія нафтадаляры пачалі купляць зерне за мяжой, хлеб у крамах можна было набыць і без чаргі. Быў і такі працяглы пэрыяд, калі звычайна адзіны гатунак хлеба завозіўся ў сельскія крамы для людзей другога гатунку, якія набывалі яго без чаргі на 2-3 сутак для сябе і свойскай жывёлы.

У гарадах цывілізацыя пайшла значна далей, асабліва за апошняе дзесяцігодзьдзе. У Полацку ў вітрыне можна ўбачыць некалькі гатункаў хлеба, адрозных паводле тэхналёгіі, складу, формы, ну і, вядома, якасьці і цаны.

Учора жонка прынесла з крамы кавалак падавога хлеба вагою 350 г, *нарэзанага скібкамі і адмыслова запакаванага*, праўда, даражэйшага. Дзіўлюся і пытаю: "Ці не замежны?" "Можа і так, — адказвае, — на Задзьвіньні ўжо больш за месяц прадпрымальнікі гандлююць таньнейшым за наш расейскім хлебам. Аднак паспытаем маю пакупку". Распакавалі і пакаштавалі. Хлеб надзіва быў сьвежы, з водарам кмену і пасьпелай, але яшчэ ня зжатай, жытняй нівы.

Калі зьелі па скібцы смачнага хлеба і дасталі па другой, з-пад упакоўкі выпала цыдулка, зь якой даведаліся, што хлеб "весенний староборисовский, подовый, дата изготовления – 2001, энергетическая ценность 221 ккал. Полоцкого хлебзавода".

Другая скібка "смачнага хлеба" падалася ўжо трохі гаркаватай, быццам бы чэрствай і як бы засядала ў горле.

А назаўтра жонка зноў, як і да гэтага, заняла сорак пятае месца ў чарзе былых будаўнікоў камунізму па таньнейшы хлеб і, пасьля гадзіннага выпрабаваньня холадам, прынесла дадому бохан яшчэ цёплага хлеба, таго гатунку, якім колісь кармілі сьвінчо.

**Павал Бурдыка, Полацак**

лісты ў рэдакцыю

# Заўвагі пра палкоўнікаў

## *Вінцэсю Мудрову*

Ваш аповед "Іду на таран", надрукаваны ў №6 часопісу "Калосьсе", амаль дасканалы. Некаторыя радкі, сказы і нават цэлыя абзацы і старонкі перачытваю многа разоў, смакуючы. Праўда, заканчэньне, з пункту гледжаньня праўды жыцьця, спрошчанае, тады як удалы фінал мог зрабіць аповед бэстсэлерам. І трэ было, ні многа ні мала, проста "ўгадаць" найбліжэйшую будучыню палкоўнікаў на постсавецкай прасторы з 1995 па 2000 г.

Варта адзначыць, што палкоўнікі драпаць цьвіком *"Made in USA"* на фотакамэрах ня будуць і глыкаць гарэлку з гарла ня будуць, і мастурбаваць, паглядаючы на караценькую спаднічку буфэтчыцы, таксама ня будуць. Гэта справа сэржантаў і шарагоўцаў.

Палкоўнікі мысьляць стратэгічна, і калі хочуць – засвойваюць Камасутру з буфэтчыцамі па поўнай праграме. Але перш за ўсё прыватызуюць тэрыторыі, робяцца губэрнатарамі і прэзыдэнтамі, цісьнуцца ў парлямэнты, бяруць удзел у стварэньні карпарацыйна-паліцэйскай дзяржавы-імпэрыі. Вось гэтыя стратэгічна-тактычныя мысьляры нам і цікавыя, бо ім з трэскам прайгралі дэмакратычныя сілы як у Расеі, так і ў нас, у Беларусі, і зараз яны перайначваюць нашае жыцьцё на свой палкоўніцкі кшталт. Сапраўдныя палкоўнікі носяць у сваіх валізах штаны з лампасамі.

Вінцэсь Мудроў, паказаўшы вайсковую рэчаіснасьць на высокім мастацкім узроўні, дасканала і ў меру адбіўшы вайсковыя хібы (кожны таленавіты твор заўсёды перабольшвае, канцэнтруючы зьявы жыцьця), прыканцы зрабіў рэзкі і глыбокі віраж уніз, да шэрай штодзённасьці.

Нас, чытачоў і грамадзянаў, цікавіць: што далей? Сапраўдныя палкоўнікі навядуць парадак, а вось ці здужаюць яны так арганізаваць дзяржаўныя справы, каб мы паімчалі ў будучыню разам з усім цывілізаваным сьветам?

Шэрая рэчаіснасьць... Навошта пра яе пісаць? Яна вакол нас усюды. Яна гуртуецца побач з кожным, яна на вуліцах, плошчах, на тэлеэкранах, у кватэрах. І нават у лесе можна сустрэць гурбы сьмецьця, адкіды чалавечай жыцьцядзейнасьці. Бяры гэтую шэрасьць у рамку, перанось на паперу — і вось новы твор зроблены.

Вінцэсь Мудроў дасканала малюе рэчаіснасьць, але не дае, не падказвае, не шукае выйсьця... Ягоныя героі – ахвяры. Вось апошні аповед, надрукаваны ў ARCHE, №9-2000, "Дарога ў дваццаць крокаў", які пераклікаецца зь Сідаруковым "Выкраданьнем вепрука". І там і тут героі п'юць гарэлку і чарніла з пачатку да самага канца, як і ў жыцьці. Дарога ў нікуды! Аніякай спробы вырвацца з гэтага зачараванага кола. Усё абкладзена пляшкамі з гарэлкай, што выконваюць ролю чырвоных сьцяжкоў для ваўкоў.

А нам так патрэбныя і ў жыцьці, і ў літаратуры героі, лепш за ўсё маладыя людзі, якія ідуць супраць агульнай плыні, праз чырвоныя сьцяжкі прэч з кола быдлоты. Яны дасягнулі дабрабыту, стварылі шчасьлівыя сем'і, зрабіліся сапраўднымі людзьмі.

Бо сёньня ня толькі можна, але і трэба ісьці праз аблогу. У гэтым ісьціна сапраўднага мужчыны. Герой нашага часу – той, хто ўцякае з кола брыдоты, п'янства, шэрасьці, гультайства.

Таму ў аповедзе "Дарога ў дваццаць крокаў" не стае аднаго пэрсанажа – аднавяскоўца, які самастойна дасягнуў жыцьцёвага дабрабыту, ажаніўся з самай прыгожай і разумнай дзяўчынай, займаецца пчалярствам, гадуе худобу, згроб у сваю жменю гэтых п'янтылаў, былых аднаклясьнікаў. Нават тамтэйшую адмінстрацыю ён скіраваў у патрэбнае рэчышча. Вось гэты герой і купіў помнік таварышу Сталіну, як напамін аб мінуўшчыне.

Трэба патлумачыць, што ў будучыні няма месца для Гасюты, Міколы-ўнука, Даніка Крываблоцкага. Калі хто зь іх і выжыве, дык праз 10 ці 20 год, прадраўшы вочы, убачыць, што нічога свайго няма: ні зямлі, ні трактара, ні майстэрні, ні жонкі... Іх спойвалі, каб лягчэй было абабраць...

Калі чалавек прайграе жыцьцёвую барацьбу, яго павінен агортваць сорам! Пан Бог даў яму жыцьцё, а ён яго прасьвістаў! Які ж ён герой? Ён мудак, а не герой.

Вось адна з рэальных і страшных тэмаў жыцьця. Чалавек праз 20 год сустракае адзіную і непаўторную любоў. За 20 год ён апусьціўся, забурэў, адзервянеў, можа ірвануць любога і кожнага так, што таму не пазайздросьціш. І вось у чарзе, у краме ён сустракае Яе.

— Даніку, гэта ты? – ледзь чутна і нясьмела спытала Яна. Ён апусьціў позірк долу, кусаў рукі, каб не звар'яцець, і стаяў, як скамянелы, ня маючы мужнасьці зірнуць у вочы Адзінай і Непаўторнай. Лепш бы яго пярун забіў на месцы, лепш бы ён ня жыў. Данік паваліўся на калені і, схіліўшы галаву, мармытаў: "Каюся, Божа, каюся". А вакол стаялі людзі і глядзелі на Даніка Крываблоцкага".

Чалавек атрымаў страшную жыцьцёвую Паразу, але грамадзтва, сваякі, сябры заспакойваюць яго, што гэтая параза нястрашная, плюнь на Яе, Даніку, і забудзься. Але не ўсьвядоміўшы паразы як Паразы, ніколі ня станеш Пераможцам.

Сёньня трэба вучыць людзей глядзець крышку далей, на пяць, дзесяць, дваццаць год наперад. Маляваць ім выйсьце. І нельга пагаджацца зь беларускім народным меркаваньнем, што ўсё ад Бога, ад Лёсу, а ад чалавека нічога не залежыць (а раз так, можна піць з раніцы да вечара). Усе мы пакліканыя ў гэты сьвет, каб нешта зрабіць, і на гэта нам даецца свабода выбару. Мы нават можам і нічога не рабіць! Але ў гэтым выпадку атрымаем бессэнсоўнае жыцьцё бяз вынікаў!

Шаноўны Вінцэсю! Я мару, што празь некалькі год усе сьвядомыя людзі ў Беларусі будуць пытаць адзін у аднаго, ці пасьпелі яны прачытаць новы беларускамоўны раман. Магчыма, гэта будзе раман Вінцэся Мудрова пра нашае жыцьцё, пра Чарнобыль, пра здраду, пра каханьне, пра сьнег і дождж, пра паплавы ля ракі, сіняе неба, хуткаплынны Час. Хопіць нам чытаць і назіраць у тэлескрынках чужаземнае жыцьцё. Як сказаў Сакрат Яновіч, "пра свае справы будзем гаварыць самі!" Пасьля "Іду на таран" мне здаецца, што ў Вас атрымаецца. Дый гэты аповед насамрэч зьяўляецца часткай раману, файнага, цікавага раману ці аповесьці – таму так і кідаецца ў вочы ненатуральнасьць заканчэньня.

**Кастусь Травень, Менск**

# Загадка Караткевіча



Сяргей Паўлоўскі

На пачатку 80-х сьвядомыя беларусы сьпявалі. І сярод песень Беларускай сьпеўна-драматычнай майстроўні была Багдановічава «Пагоня» — на матыў «Марсэльезы», бо іншай мэлёдыі тады яшчэ ня ведалі. Часам замест словаў «Пагоні» на той самы матыў «Марсэльезы» сьпявалі верш Уладзімера Караткевіча «Багдановічу». Замена падавалася адэкватнай. Караткевічавы словы заварожвалі.

Сьцюжны час, бязьмежна-суровы.
Сьпіць народ, нібы зерне ў ральлі.
..........................................
Ты прыйшоў
І гарачым словам
Рунь узьняў на роднай зямлі.
Ты сказаў нам:
«Унукі Скарыны,
Дзе ваш гонар, моц і краса?
Ёсьць і ў вас, як у іншых,
сьвятыня.
Не давайце сьвятыні псам!
Не давайце зь яе глуміцца,
Бо прасьпіць яна ясну зару,
Бо сьвяты ізумруд заімгліцца
У пярсьцёнку тваім, Беларусь».

Караткевічавы словы заварожвалі сваёй таямнічай магіяй. І калі найбольш дасьведчаныя сьпевакі ўжо ведалі, што паэт выкарыстаў тут словы Хрыста з Нагорнай казані ў Эвангельлі ад Мацьвея, дык наступныя словы ўражвалі сваёй экзатычнай выключнасьцю ды нетутэйшым бляскам — сьвяты ізумруд у пярсьцёнку Беларусі не павінен быў заімгліцца. Тэза ўспрымалася настолькі ж неаспрэчна, наколькі была няўцямная. Часам думалася — чаму гэткі знаўца мовы і старажытнасьці, як Караткевіч, ня ўжыў слова «смарагд» замест «ізумруду»? Але пра тое, што азначаў гэты ізумруд, разважаць не хацелася. Не хацелася разбураць гэтую адначасова казку і ўжо вызначаную жыцьцёвую праграму. Ізумруд выпраменьваў вобраз Беларусі настолькі магутна і пры тым інтымна, што ўдавацца ў канкрэтыку не было поклічу. Нешта падобнае перажывалі майстроўцы, сьпяваючы верш Натальлі Арсеньневай «У гушчарах». Эмацыйнай вяршыняй там былі словы: «Беларусь, Беларусь залатая, За цябе, за цябе мы ідзём!» Была б на месцы «залатой», да прыкладу, «дарагая», і тэкст адразу б рабіўся звычайным і пабытовым. Магчыма, і сьпявалі б яго ня гэтак ахвотна. А тут — кожнага разу «дабіраліся» да тых апошніх радкоў з «залатой» Беларусяй, нібы расьцягваючы задавальненьне, нібы доўжачы гэтае чаканьне незразумелага шчасьця, быццам рыхтаваліся да раптоўнага эмацыйнага ўзьлёту. Зразумела, што «залатая» была ў Арсеньневай маленькім паэтычным азарэньнем, бязь нейкага канкрэтнага намёку ці шыфроўкі. Вось жа гэтаксама ўспрымаўся і Караткевічаў «сьвяты ізумруд».

Для дасьведчанага ў беларускай літаратуры чалавека паходжаньне Караткевічавага ізумруду ў вершы «Багдановічу» — не загадка. Дастаткова зьвярнуцца да твораў самога Багдановіча. Ёсьць там такі вершык зь дзіўнаю назвай «Безнадзейнасьць».

Скарына, доктар лекарскіх навук,
У доўгай вопратцы на вежы
сочыць зоры.
Яны спрыяюць! Час! З рухавых рук
Скарыны п'е адвар пан земскі
пісар хворы.
І ўраз пабачыў ён, што ізумруд
Ў пярсцёнку залатым на пальцы
штось імгліцца,
Што блеску ў ім няма...
І з болем тут
Ён зразумеў, што ўжо к жыцьцю не
вараціцца.

Як бачым, Уладзімер Караткевіч у вершы, напісаным да 75-х угодкаў Максіма Багдановіча, выкарыстаў Багдановічаву сымболіку і вобразы — тут і Скарына, тут і ізумруд, тут і матыў Багдановічавай «Пагоні». Усё нібыта зразумела. Аднак ізумруд... З залатога пярсьцёнка хворага земскага пісара ў Багдановіча, дзе ён імгліўся, прадвяшчаючы сьмерць чалавека, ізумруд у Караткевіча перамясьціўся ў пярсьцёнак Беларусі. Найбольш проста трактаваць і тут заімгленьне ізумруда як прадвесьце сьмерці Беларусі. Але ёсьць у гэтым вобразе і канкрэтны кантэкст. Каб адшукаць яго, нам давядзецца зазірнуць у перадгісторыю напісаньня Багдановічавага верша.



Максім Багдановіч зь пяці гадоў невыезна жыў у далёкіх расейскіх гарадах — Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі. Там ён з кніжак вывучыў родную мову і прасякнуўся беларушчынай, там пачаў пісаць вершы, якія дасылаў у рэдакцыю «Нашай Нівы» ў Вільню. У рэдакцыі заўважылі маладога паэта і ягоны талент ды вырашылі запрасіць хлапца ў Беларусь. І вось у 1911-м годзе Багдановіч прыяжджае ў Вільню. Тут ён праводзіць некалькі дзён праездам у Ракуцёўшчыну пад Маладэчнам. У наступныя гады ва ўсёй творчасьці паэта будзе выразна праглядаць жывы досьвед той паездкі, прычым ясна падзелены на гарадзкі досьвед і вясковы. Некалькіх дзён у Вільні яму хапіла, каб пасьля на працягу гадоў ашчадна выпісваць свае ўражаньні. Не кранаючы чыста віленскіх вершаў, сабраных у нізку «Места», можна яшчэ ў дзясятках іншых твораў убачыць тыя віленскія ўражаньні. Да прыкладу, у знакамітых «Слуцкіх ткачыхах». Дасьведчанаму ў біяграфіі Багдановіча гэты верш, ягоная тэма і вобразы могуць падацца дзіўнымі, маўляў, пры чым тут Слуцак і радзівілаўскія мануфактуры. Але варта прачытаць успаміны бацькі паэта Адама Багдановіча, напісаныя шмат пазьней пасьля сьмерці Максіма. Там згадваецца, што найбольшае ўражаньне на Максіма ў часе паездкі ў Беларусь зрабілі слуцкія паясы, якія ён разглядаў у Вільні ў калекцыі Івана Луцкевіча. Сёньня, між іншым, тыя паясы знаходзяцца ў экспазыцыі літоўскага этнаграфічнага музэю. Дык ці ж верш пра слуцкіх ткачых ня мусіць быць уключаны ў віленскую нізку? Згадаем радкі:

Цямнее край зубчаты бора...
І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж пэрсідзкага узора
Цьвяток радзімы васілька.

Запомнім гэты «васілёк». Аналіз паэтыкі Багдановічавых вершаў падкажа нам, што чыста фармальна гэта — той самы ізумруд, тая самая «разынка» ў палатне верша, што і «залатая» Беларусь у Арсеньневай, толькі больш прадметная, па-багдановіцку. Васілёк дапаможа нам далей прасачыць сюжэт з ізумрудам.

У часе тых некалькіх дзён у Вільні Максім жыў у сакратара рэдакцыі «Нашай Нівы» Вацлава Ластоўскага. Ластоўскі — гісторык і мовазнаўца, вялікі рамантык беларушчыны, паказваў Багдановічу Вільню. Вось тут друкаваў свае кнігі Францішак Скарына, мы пісалі пра яго ў «Нашай Ніве», гэта выбітная постаць беларускага Адраджэньня. Ня толькі першадрукар, але і астраном — Ластоўскі паказвае на вежу Верхняга замку. Там Скарына сачыў зоры. А яшчэ ж і лекарам быў. Каго лячыў? Ну, да прыкладу, земскага пісара... У галаве Багдановіча рояцца ўражаньні і ўрэшце складаецца карціна, якую ён пасьля апіша вершам. Праўда, аднога сюжэту і пераліку Скарынавых умельстваў будзе мала. Гэта Багдановіч ведае з тэорыі паэтыкі. Патрэбная нейкая дэталь, якая зробіць верш філязофскім і вечным. І тут згадваецца пярсьцёнак, які ён сёньня бачыў у калекцыі Луцкевіча. Дакладна гэтак, як у сюжэце са слуцкімі ткачыхамі спатрэбіўся васілёк...

І тут самы час перайсьці да галоўнага пытаньня гэтага вершаванага «вузла»: што меў на ўвазе Караткевіч пад сьвятыняй у тым радку з Нагорнай казані? Увага:

«Ты сказаў нам:
«Унукі Скарыны,
Дзе ваш гонар, моц і краса?
Ёсьць і ў вас, як у іншых,
сьвятыня.
Не давайце сьвятыні псам!
Не давайце зь яе глуміцца,
Бо прасьпіць яна ясну зару,
Бо сьвяты ізумруд заімгліцца
У пярсьцёнку тваім, Беларусь».

«Сьвятыня» ў Караткевіча ўжытая ў адзіночным ліку, у адрозьненьне ад Нагорнай казані, дзе Хрыстос гаворыць пра сьвятыні. Калі б Караткевіч гаварыў пра шмат сьвятыняў, атрымаўся б дыдактычны радок патрыятычнага зьместу. Але гутарка ідзе пра адну, найбольшую. Простая аналёгія са словам храм тут таксама непераканаўчая. Караткевіч ведаў і цаніў шматканфэсійнасьць Беларусі, а да таго ж у 1966-м рабіць такі адназначны рэлігійны акцэнт было і рызыкоўна, і — для багемнага асяродку паэтаў філялягічнае школы — неадэкватна. Можа быць, Караткевіч назваў сьвятыняю Беларусь? Але ж Беларусь тут названая сама сабою, гэта ў яе пярсьцёнку заімгліцца ізумруд, калі будзе зглумленая сьвятыня.

Пішучы верш-водгук на Багдановічава васьмірадкоўе пра Скарыну, выкарыстоўваючы рытміку Багдановічавай «Пагоні» зь яе Вострай Брамай сьвятою, Уладзімер Караткевіч меў на ўвазе Вільню — страчаную і нічым не апраўдана чужую. Вільню зь яе замкавай вежай і дамамі бурмістра Бабіча, які даў прытулак першадрукару, зь яе слуцкімі паясамі ў беларускім музэі Івана Луцкевіча, з васільком на іх і зь пісарам земскім, які пісаў зразумела на якой мове. Вільню, культурную цану якой Караткевіч і ведаў, і вычуваў, як рэдка хто з сучасных беларусаў.

Звышэмацыйны выкрык Караткевіча, які прагучаў у вершы «Багдановічу», менавіта з-за гэтай самай звышнасьці ня быў пачуты цэнзурай, бо звычайнае вуха ня чуе інфрагукаў, якімі перагукаецца з суродзічамі «чорны кажан, што шнуруе ля вежы». Гэты выкрык працягвае гучаць і сёньня, ён блукае рэхам па віленскіх вуліцах Завальнай, Вялікай Пагулянцы, Вастрабрамскай... Але чуюць яго адно кажаны. Караткевіч выказаўся, як выгукнуў. Такім чынам тэза пра немагчымасьць новага нацыянальнага адраджэньня бязь Вільні прагучала на поўную моц яшчэ ў 1966-м.

## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Агляд-хроніка парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі ў 2000 г.** - Менск: ГА "Праваабарончы цэнтар "Вясна", 2001. - 180 с.

*Гэта ўжо трэці выпуск штогадовага "Агляду-хронікі". У ёй трыма мовамі - беларускаю, ангельскаю й расейскаю - пералічваюцца ўсе парушэньні правоў чалавека ў нашай краіне за 2000 год. У параўнаньні зь мінулымі выпускамі "Агляду", сёлетні нашмат таўсьцейшы.*

Р.Барадулін. **Босая зорка** / Мастак Г.Грак; фота С.Шапрана. - Менск: ГА "Беларускае таварыства "Кніга", 2000. - 177 с.: іл. - Наклад 1000 ас. ISBN 985-6605-04-0

*Новая кніга лірыкі народнага песьняра надрукаваная мініятурным выданьнем. Каштуе 2,5 т.р.*

А.Кулагін. **Праваслаўныя храмы на Беларусі**: Энцыкляпэдычны даведнік / Мастак І.Бокі. - Менск: Беларуская энцыкляпэдыя, 2001. - 328 с.: іл. - Наклад 3000 ас. ISBN 985-11-0140-7

*Выйшла сьледам за "Каталіцкімі храмамі на Беларусі", што зьявіліся напрыканцы мінулага году. Каштуе 3 т.р.*

**Хрысьціянскія храмы Беларусі на фатаздымках Яна Балзункевіча**: Пачатак XX ст. / Уклад. А.Кулагін, У.Гарасімовіч. - 2-е выд. - Менск: Ураджай, 2001. - Наклад 2100 ас. ISBN 985-04-0399-3

*Гэтая кніга, вельмі папулярная сярод замежных турыстаў і аматараў беларускае даўніны, выдадзеная паўторна й каштуе пад 5 т.р.*

М.Улашчык. **Выбранае** / Уклад. А.Каўка й А.Улашчык; Навук. рэд. Г.Кісялёў і В.Скалабан; Прадм. і камэнт. А.Каўкі; Паказ. імён Н.Мазоўкі. - Менск: Беларускі кнігазбор, 2001. - 608 с. (8) с.: іл. - ("Беларускі кнігазбор"; гістарычна-літаратурныя помнікі). - Наклад 3200 ас. ISBN 985-6638-08-9

*Мікалай Улашчык (1906-1986) - гісторык, быў рэпрэсаваны як "нацдэм" і зьведаў усе кругі гулагаўскага пекла. Па вайне жыў і працаваў у Маскве. У кнізе зьмешчаны гістарычна-краязнаўчы нарыс пра родную Ўлашчыкаву вёску Віцкаўшчыну, уводзіны да манаграфіі "Нарысы з археаграфіі й крыніцазнаўства гісторыі Беларусі фэўдальнага пэрыяду", рэцэнзіі на вызначальныя навуковыя працы з гісторыі Беларусі, выдадзеныя ў сярэдзіне XX ст., "Нататкі пра бадзяньні ў 1924-1929 гадох", аўтабіяграфічныя запісы М.Улашчыка. Каштуе кніга пад 3 т.р.*

Калектыў аўт. **Друвінгаў сьветацям**. - Менск: 2000.

*Невядомыя аўтары робяць спробу адшукаць вытокі нашага народу ў ягонай дахрысьціянскай мінуўшчыне. Пра набыцьцё кнігі можна даведацца праз адрасы: 220050, Менск, а/с 342 або: gega@europe.com*

В.Дадзіёмава. **Нарысы гісторыі музычнае культуры Беларусі**: Навучальны дапаможнік. - Менск: Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі, 2000. - 256 с. - Наклад 500 ас. ISBN 5-7815-0299-8

*Кніга, прысьвечаная музычнай культуры Беларусі ад X да XIX ст., сталася вынікам шматгадовае працы аўтаркі ў архівах Беларусі, Украіны, Расеі, Польшчы, Нямеччыны й Бэльгіі. Дзякуючы рупнасьці Вольгі Дадзіёмавай, Беларусі вернутыя імёны славутых кампазытараў Міхала Казімера Агінскага, Міхала Клеафаса Агінскага, Мацея Радзівіла, Лявона Сітанскага, Восіпа Казлоўскага, Станіслава Манюшкі, выяўлена мноства дагэтуль невядомых помнікаў музычнае культуры. Кнігу можна набыць у менскай сядзібе БНФ "Адраджэньне".*

В.Пануцэвіч. **Сьвяты Язафат, архіяпіскап полацкі** / Апрац. і ўклад. М.Баўтовіч. - Полацак: Сафія, 2000. - 274 с. - Наклад 1000 ас. ISBN 985-6448-11-5

*У кнізе, напісанай беларускім эміграцыйным гісторыкам Вацлавам Пануцэвічам, распавядаецца пра жыцьцё, дзейнасьць і кананізацыю арцыбіскупа Язафата Кунцэвіча (1580-1623). У дадатку - колькі цікавых дакумэнтаў. Кнігу можна набыць у менскай сядзібе БНФ "Адраджэньне".*



дзесяць мяхоў беларускай гісторыі

# Усяслаў Чарадзей — князь і гарэлка

**Усяслаў Чарадзей – сэкс-сымбаль і грамадзянскае сумленьне заходнерускіх земляў, прататып былiннага Волха Ўсяславіча, бацька бэтэшна-калыханачнага Дзеда-Барадзеда і вынаходнік гарэлкі "Ўсяслаў Чарадзей".**



У першыя гады княжаньня Ўсяслаў ня ўносіў ніякіх зьменаў у палітыку свайго бацькі Брачыслава, якая, збольшага, зводзілася да мэтадычнага генацыду пскавічоў і наўгародцаў і рэгулярнай дэманстрацыі дулі афіцыйнаму Кіеву. Штопраўда, у зносінах зь вялікім братам здараліся і часовыя пацяпленьні. Напрыклад, полацкая дружына брала ўдзел у наглядна-агітацыйным паходзе, які мілітарысцкая Русь у асобах трох сыноў кіеўскага князя Яраслава Мудрага зладзіла супраць торкаў-анархістаў, з мэтай заклікаць іх да дысцыпліны і талерантнасьці і прадухіліць гуманітарную катастрофу ў месцах кампактнага іх пражываньня. За баявыя заслугі Ўсяслаў атрымаў Копысь, Воршу і цэлы абоз турэцкага шырспажыву па зьніжаных коштах. Дарэчы, гераізм палачанаў азваўся нам у XX ст. – калі б Копысь не апынуўся тады ў нашых руках, яскравы талент Аляксандра Лукашэнкі загібеў бы ў глухім закутку Смаленскай вобласьці.

Спэкуляцыя турэцкімі трантамі прынесла дадатковыя фінансавыя сродкі, на якія Ўсяслаў збудаваў новы дзядзінец у суточчы Заходняй Дзьвіны і Палаты (да гэтага там месьціліся рэзыдэнцыі замежных паслоў), што дазволіла кантраляваць прадпрымальніцкую дзейнасьць вараскіх купцоў і перапыніць нелегальную эміграцыю з Тмутаракані. А вось за Сафію давялося пазмагацца: напаўпаганскае полацкае веча ўпёрлася рогам і не хацела выдзяляць бюджэтных сродкаў на царкву, адстойваючы ідэю пабудовы лядовага палацу. Дзеля большай пераканальнасьці Ўсяславу давялося разы са тры абярнуцца ваўком.

Дбаў Усяслаў і пра здароўе нацыі. Так, у фізкультурна-аздараўленчых мэтах ён у 1065-м ладзіць вайскова-спартыўную гульню "Зарніца" ў ваколіцах Ноўгарада. Існуе гіпотэза пра таемнае пагадненьне паміж Усяславам Чарадзеем і нармандзкім герцагам Вільгельмам Заваёўнікам, што меліся падзяліць Эўропу. Плян быў просты: нарманы, захапіўшы Англію, рухаюцца з захаду ў Скандынавію, злучаюцца там з полацкімі палкамі, што ідуць з поўдня, і разам не пакідаюць мокрага месца ад бандыцкай маліны варагаў. Далей – справа тэхнікі. Фатальную ролю ў гэтай гісторыі адыгралі крамяныя англасаксонскія дзеўкі. Пабачыўшы іх, Вільгельмавы рыцары адзінагалосна вырашылі назаўжды застацца на Брытанскіх выспах. Так што Ўсяславу давялося абмежавацца экспрапрыяцыяй званоў з Наўгародзкае Сафіі.

Гэтым ён страшна пакрыўдзіў зайздросных Яраславічаў, якія неадкладна распачалі паход на поўнач. Спалілі Менск, перабілі мужчынаў, а жанчын і дзяцей узялі з сабой дзеля паляпшэньня генатыпу, падупалага з прычыны бязладных полавых сувязяў з асобамі палавецкай нацыянальнасьці, — і шчыльнымі радамі выйшлі да Нямігі. Разрабаваўшы МакДональдз на Раманаўскай слабадзе, недзе ў раёне "Гандлёвага дому", Яраславічы 28 лютага 1067 г. сустрэліся з Усяславам. Супольна адзначыўшы Новы год, які пачынаўся тады ў сакавіку, на трэці дзень звычайнага постнавагодняга сіндрому, апанэнты згадалі чаго ім адно ад аднаго трэба. З абодвух бакоў у мардабоі, прыгожа названым пасьля "бітвай на Нямізе", бралі ўдзел каля 10–15 тысячаў чалавек. Перамога Яраславічаў была аж настолькі відавочнай, што яны неадкладна павярнулі дахаты, ды яшчэ ў пераможным запале аддалі Ўсяславу нейкія тэрыторыі. І ўвогуле, дзіўныя ў іх былі адносіны: ці то любілі яны полацкага князя, ці то ненавідзелі, але жыць безь яго не маглі. Так, не мінула й паўгоду — клічуць Усяслава ў Воршу мірыцца. Прычым цалуюць крыж і даюць зуб – абяцаюць не чапаць. Але, відаць, не ўтрымаліся і ў апошні момант унесьлі зьмяненьні й дапаўненьні ў свае абяцаньні. Усяслаў грыбы разьвесіў, аднак замест піва "Куцейна" яго чакалі вада з хлебам і сонца праз ваконца порубу, укапанага ў зямлю на 52,7 мэтра.

Праз восем месяцаў у Кіеве насьпела крыза ўлады. Полаўцы, паганяўшы дружыну кіеўскага Ізяслава па ўсім Дзікім полі, пацiху раскладалі цяпельцы пад гароднямі. Народ, з крыкам "Ізя, геть!", папросту турнуў яго ў плечы прэч з гораду. Паўстала патрэба ў альтэрнатыве. Вось тады хтосьці і згадаў, што ў порубе корміць вошы выпетралым ад сухіх галадовак целам вязень сумленьня №1 Усяслаў Полацкі. Знайсьці замаскаваны поруб на тэрыторыі дзядзінца было няцяжка – вязьніца не адпавядала гігіенічным патрабаваньням санстанцыяў і адтуль невыносна тхнула інфармацыяй пра тое, што там ужо больш за год знаходзіцца здаровы мужык. Пасьля трохдзённай лазьні і чатырохдзённай інаўгурацыі Ўсяслаў прыступіў да выкананьня канстытуцыйных абавязкаў. Перш-наперш ён выйшаў за браму й абярнуўся ваўком перад полаўцамі. Акупанты на імгненьне спруцянелі, а пасьля, несупынна хрысьцячыся, бокам-бокам падаліся ў Дзікае поле.

Тым часам легітымны Ізяслаў Яраслававіч з 16 тысячамі ўзброеных міжнародных назіральнікаў рухаўся да Кіева. Калі яны паказаліся на даляглядзе, Усяслаў нечакана адчуў моцную тугу па Бацькаўшчыне і з крыкам "Радзіма, мая дарагая!" уцёк у Полацак падземным ходам. Там яго з хлебам і сольлю ў набоях чакаў кіеўскі вэртыкальшчык Мсьціслаў Ізяславіч, чым і тлумачыцца адсутнасьць Усяслава ў палітычным жыцьці рэгіёну на працягу далейшых трох год. Наступны кіеўскі вэртыкальшчык, Сьвятаполк, быў не такі трывалы. Полацкія дзеўкі і гарэлка зрабілі сваю справу – Усяслаў без асаблівых цяжкасьцяў выгурыў яго з Полацку.

Пасьля, на працягу 30 год, княства цешылася мірам і спакоем, калі не лічыць дробных свавольстваў Уладзімера Манамаха, які час ад часу паліў то Смаленск, то Лукомль, то Лагойск, то Друцак, то зноў Смаленск. Асабліва ўпадабаў ён Менск, дзе звычайна не пакідаў ні чалядзіна, ні скаціны.

Усяслаў жа, паставіўшы дзяржаўныя справы на аўтапілёт, захапіўся вывучэньнем моваў і пераклаў на крыўскі дыялект "Уліс" Джойса, "Ківач Фуко" Эка і "Палявыя дасьледаваньні ўкраінскага сэксу" Забужкі.

**Алег Гардзіенка, Андрэй Скурко**

**«Наша Ніва» і «ARCHE» ў Рэчыцы**

**У аўторак 6 сакавіка ў Рэчыцы адбудзецца сустрэча з в.а. галоўнага рэдактара «Нашае Нівы» і дырэктарам часопісу «ARCHE» Андрэем Дыньком, паэтам Андрэем Хадановічам і пісьменьнікам ды сьпеваком Зьмітром Бартосікам. Запрашаем усіх у кінатэатар «Беларусь» а 16-й.**



**Прадаю:**
Прадаю кнігі: М.Раманюк "Беларускія народныя крыжы", З.Пазьняк "Глёрыя Патрыя", збор твораў У.Караткевіча ў 8 т. (18 т.р.) і інш. Вышлю каталёг электроннай поштай: janka_cit@yahoo.com. Т.: 258-43-54

## прыватныя абвесткі

***ангельская мова***

**Гадзіны ўласнага выкладаньня** ангельскай мовы для ахвотных вольна размаўляць. Т.: 235-07-80

***віншаваньні***

**Дзякуй СР МФ** за прыезд да мяне ў войска на Дзень народзінаў

**Віншую новаабранага** старшыню Гарадзенскага Маладога Фронту з абраньнем! Міхельсон

**Vinšuju siabie z Dniom narodzinaŭ.** Hety dzień — śviata dla Niezaležnaj Biełarusi. Aleks

**Віншую лекара Сяргея Юрчанку** з Днём народзінаў. Посьпехаў і свабоды! Лекарка зь Менску

**Віншуем Ганну Іванаўну** з Днём нараджэньня. Зычым здароўя, доўгіх гадоў жыцьця. Дачка Алёна, зяць Андрэй

**Vitaju znajomych z BPS.** Saču za vašaj dziejnaściu. Aleks

**Шаноўная грамадзянка Вольга Драздова!** Віншую з Днём народзінаў. Заставайся заўсёды такой файнай дзяўчынай. Кантэкст

**Віншую яснавокую паненку Вольгу Драздову** з Днём народзінаў! Віт

**Вальжына Драздова!** Часьцей усьміхайся! З Днём нараджэньня цябе, малая! Алесь Д.

**Шчыра дзякую** Паўлу Севярынцу за цудоўны значак. Жыве Беларусь! Вераб'ёва Злата

***кантакты***

**Шукаю аднадумцаў** па кантэксьце. Парэфлексуем? kantekst@tut.by

**Шаноўныя сьвядомыя студэнты ФБФіГ!** Падкажыце, калі ласка, якім менавіта чынам з вамі зьвязацца, калі гэта, вядома ж, магчыма. Тая самая

**Бізнэсмэн**, 30/176, з кватэрай у Менску, пазнаёміцца для стварэньня сям'і з паненкай ці жанчынай. Адкажу ўсім. Укладзіце капэрту. 210021, Віцебск-21, а/с 21, Уладзімер

***красьлюнкі***

**Дапамагу студэнтам** якасна й танна выканаць красьлюнка. Т. у Гомлі: 45-11-51

***музыка, кнігі, відэа***

**Куплю часопіс ARCHE** (№1, 1998). Т.: 262-67-02, Валянцін

**Прымаем заяўкі** на відэафільм: "Матрыца". Т. у Гомлі: 45-11-51 (пасьля 18.00)

**Беларускамоўнае відэа ў Гомлі**: "Адважнае сэрца", "Пяты элемэнт", мульцікі ды інш. Т.: 45-11-51

**Выстава «Ў Міхельсона»** працуе ў Горадні па вул.Маркса 11 (другі паверх) штопанядзелка і штосерады. На выставе - беларускія аўдыёкасэты, кнігі ды кампакты. Час працы з 17 да 20-й

**Маю гонар** прапанаваць сп.Мельнікаву якасны запіс музыкі ды песень з фільму "Married to the mob" (ЗША, 1988). Ёсьць кружэлка, але вышлю касэту. Калі ёсьць патрэба, зьвяртайцеся на адрас: 220050, Менск, а/с 461. Калекцыянэр

**Прадаю гадавыя камплекты** 14 тоўстых літаратурных часопісаў у добрым стане за 88-93 гг. (па 500 руб. за нумар зь перасылкай) з рэдкімі і цікавымі творамі. 210021, Віцебск-21, вул.Цітова, 121-15

**Вельмі танна** прадаю цудоўныя кнігі з хатняй бібліятэкі ў добрым стане на 20 тэмаў (беларуская гісторыя і літаратура, падручнікі, клясыка XIX-XX ст., дэтэктывы, кнігі пра навуку, пісьменьнікаў, пра выхаваньне дзетак, пра сям'ю і каханьне і інш. Укладзіце капэрту, вышлю каталёг. 210021, Віцебск, вул.Цітова, 121-15

**Бясплатна вышлем** у падарунак Біблію, Дзіцячую Біблію. Укладзіце капэрту, купон б/а: 210001, Віцебск-1, а/с 39, Біблія для ўсіх

**"Друвінгаў сьветацям"** – катэхізм крыўска-балтыцкіх паганцаў – магчыма замовіць і атрымаць праз Gega Ruch. 220050, Менск, а/с 342

**Шукаю якасны запіс** музыкі і песень зь фільмаў "Господин оформитель" і "Вяртаньне Эманюэль". Бард Мельнікаў. Т.: (0232) 54-30-40

**Шукаю музыкаў** для супольнай работы над маімі песьнямі. Бард Мельнікаў. Т.: (0232) 54-30-40

**Берасьцейскім слухачам** беларускае музыкі прапаную шырокі выбар аўдыёкасэтаў і CD. Т.: 24-54-56

***net***

**"Сьвятая дуброва – Крыўскі Пяроспар"**. Запрашаем наведаць адзіны беларускі прапаганскі рэсурс. http://www.dubrova.cjb.net

***пытаньні***

**Гэй! Чый** гэта адрас: 220116, Менск, а/с 123?

**Хто падкіне думак** наконт гістарычнага аналізу адносін Расеі і Беларусі? Speaker_01@chat.ru



НАША НІВА **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

______________________________

Імя і прозьвішча ______________________________

Адрас, тэлефон ______________________________

НАША НІВА
**незалежная газэта**
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906–1914), Янка Купала (1914–1915), С.Дубавец (1991–2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| в.а. галоўнага рэдактара | Андрэй Дынько |
| заснавальнік | Павал Жук |
| карэктарка | Віялета Кавалёва |
| намесьнік гал.рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | рэдакцыя газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://members.nbci.com/nasa_niva/**

© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 6 палос фарматам А2. Друкарня УП выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Наклад 3734.
Нумар падпісаны ў друк 4.3.2001.
Замова № 1246.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а